# Тыднёвік Магілёўскі

Тыднёвік Магілёўскі

№ 8 (123) 24-30 жніўня 2001 г. Бясплатна


# Першы да нас візыт кандыдата





Фота Д.Новікава

*У панядзелак у афіцыйным рангу адзінага кандыдата ад шырокай грамадзянскай кааліцыі абласны цэнтар наведаў Уладзімер Ганчарык. Раніцай, а 10-й гадзіне, ён выйшаў з будынку абласной фэдэрацыі прафсаюзаў у добра знаёмы яму горад, перайшоў Першамайскую і далучыўся да прыкладна паўтысячнага натоўпу магілёўцаў каля будынку дыягнастычнага цэнтру. Людзі праз розныя неафіцыйныя крыніцы дазналіся пра маючую адбыцца на гэтым месцы сустрэчу. Не пасьпела яна пачацца, як зьявіўся афіцэрскі міліцэйскі нарад. Да зьдзіўленьня прысутных, пад'ехала здымачная група абласнога тэлеканала. Дасьведчаныя мясцовыя дэмакраты пазналі ў натоўпе некалькіх цывільных супрацоўнікаў адпаведнага ведамства.*

*Такім чынам, увесь мітынговы "джэнтэльмэнскі" набор быў на месцы – можна было пачынаць. І сустрэча пачалася... Аднак аўтару гэтых радкоў у парушэньне традыцыйнай кампазыцыі журналісцкага рэпартажу хочацца пераскочыць праз пасьлядоўны расповяд аб тым, як разьвівалася падзея. Карціць адразу зрабіць "падвядзеньне вынікаў" з дапамогай запісаных на магнітафон уражаньняў прысутных магілёўцаў. Вось што яны сказалі.*

***Сяргей, 40 год, мэдычны работнік:*** *Я пачуў чалавека з добрай мовай, адукаванага, выхаванага. У мяне склалася цьвёрдае ўражаньне, што гэты чалавек клапоціцца ня толькі пра тых, хто зараз працуе і аб тых, хто сваё адпрацаваў і жыве на пенсію, але і аб будучым краіны. А гэта вельмі прываблівае, бо, здаецца, што за апошнія гады мы зусім развучыліся зазіраць наперад і жывем толькі адным днём.*

***Мікалай, 35 год, рабочы:*** *Па тэлебачаньні яго ўвесь час паказваюць як пэнсіянэра, старога чалавека. Я пераканаўся, што гэта працаздольны, разумны чалавек. Сустрэча гэтая, спадзяюся, што не апошняя, вырашыла мае сумненьні ў выбары паміж кандыдатамі.*

***Марыя, былая калгасьніца:*** *Нічога новага я не пачула. Усе абяцаюць, калі ідуць да ўлады. Ды й на маё пытаньне ён не адказаў. У мяне складанасьці з налічэньнем пэнсіі, а ён адказаў таксама як усе: нешта пра форму ўласнасьці, неабходнасьць вывучыць пытаньне і г.д. На мой выбар гэтая сустрэча ўплыву не зрабіла.*

***Юры, 39 год, прадпрымальнік:*** *Сустрэча прайшла неарганізавана, але добра. Для мяне выбар вызначаны і ясны. А.Р.Лукашэнка ня пройдзе, а Ганчарык можа.*

***Алена, супрацоўніца ўстановы культуры:*** *Мне падалося, што кандыдат ня надта пераканаўчы. Але, відаць, што гэтае ўражаньне ад сустрэчы ўзьнікае ў людзей, якія падрыхтаваныя, для якіх шмат якія рэчы зразумелыя. А, даруйце, звычайны, напалоханы народ нават гэта чуе зрэдку, а магчыма, і ўпершыню. А накіпела так, што нават і такі кандыдат будзе лепшым за дзеючага кіраўніка краіны, бо горш чым зараз проста ня можа быць. Найперш пераконвае ў гэтым самое жыцьцё. Яно само па сабе – за Ганчарыка.*

***Ст. лейтэнант міліцыі (не прадставіўся):*** *Я тут на службе, таму больш глядзеў, чым слухаў. Ды й чуваць было дрэнна. Мой выбар вызначаны без усялякіх сустрэчаў. Але я пра яго не скажу. Не магу сказаць.*

***Андрэй, 30 год, юрыст:*** *Мне сустрэча спадабалася, нягледзячы на перашкоды. Тут заканадаўства вінаватае. Прэзыдэнту можна ўсё, дазволены любы выступ у любы час ужывую, як гаворыцца, альбо па тэлебачаньні. А кандыдату патрэбны дазвол, узгадненьне на памяшканьне. Вось і сабраліся на вуліцы нібы выпадкова. Аднак мне спадабалася, што было шмат моладзі. Былі й насьцярожаныя пэнсіянэры, якія чамусьці хвалявал іся, што Ганчарык забярэ ў іх сьціплыя пэнсіі, як быццам дае іх не дзяржава, а сам Лукашэнка ці хто іншы. Таму добра, што многія людзі непасрэдна пачулі аб тым, што будзе рабіць і як дзейнічаць кандыдат, у перамогу якога я асабіста веру.*

*...Вось такі вынік. А падрабязнасьці пра тое, што гаварыў на вулічнай магілёўскай сустрэчы Ўладзімер Ганчарык, чытайце на 2-й старонцы.*

***Генадзь СУДНІК***

ДАКУМЭНТ САМ ЗА СЯБЕ

# ...Парушэньняў, ясная справа, няма

Нагадаем чытачам, што праблеме выкарыстаньня міліцыі ў палітычным жыцьці, чаго закон не дазваляе, але што распаўсюджана на практыцы, мы прысьвяцілі некалькі публікацыяў, у тым ліку на прыкладзе афіцыйнага ліста намесьніка начальніка абласнога ўпраўленьня ўнутраных справаў Г.Сакава да начальніка абласнога ўпраўленьня адукацыі. У ім адказны супрацоўнік міліцыі расьпавёў пэдагагічнаму начальству пра факты затрыманьня моладзі і міліцэйскага рэагаваньня на іх не па крымінальнай, а па грамадзкай лініі. Падлеткі, у прыватнасьці, распаўсюджвалі газэты (між іншым, афіцыйна зарэгістраваныя) і навучаліся ў праграме рэспубліканскай "Вольнай клясы", як даводзіў падпалкоўнік, "современным знаниям о исторической, политической, экономической, правовой и экологической культуре"...

Магілёўскі праваабарончы цэнтар тады ж зьвярнуўся да абласнога пракурора з просьбай праверыць, ці адпавядае заканадаўству такое ўмяшальніцтва міліцыі ў грамадзкае моладзевае жыцьцё. Ніжэй падаем пракурорскі адказ.

ПРАКУРАТУРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ | ПРОКУРАТУРА РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ

ПРАКУРАТУРА МАГІЛЁЎСКАЙ ВОБЛАСЦІ | ПРОКУРАТУРА МОГИЛЕВСКОЙ ОБЛАСТИ

212001 г.Магілёў вул. Дабралюбава, 6 | 212001 г. Могилев ул. Добролюбова, 6

10.07.2001 № 07-18-2001

На № ______ ад ______

Кравченко В.Л.
г. Могилев, ул. Ленинская,д.27,кв.56

Прокуратурой Могилевской области рассмотрено Ваше обращение по вопросу направления УВД Мogоблисполкома письма начальнику управления образования Могоблисполкома Богданову В.С. о результатах проведенного анализа административных правонарушений в сфере установленного порядка распространения печатных изданий.

Сообщаем Вам следующее.

В соответствии со ст. 15 п. 15 Закона Республики Беларусь "О милиции" милиция, выполняя возложенные на нее задачи, вправе принимать участие в профилактике детских правонарушений, выявлять причины и условия, способствующие совершению правонарушений, и принимать в пределах своей компетенции меры к их устранению.

Письмо УВД Могоблисполкома от 04.05.2001 г. № 19/645 направлено в управление образования Могоблисполкома в целях предотвращения совершения несовершеннолетними учащимися правонарушений в сфере установленного порядка распространения продукции средств массовой информации и печатных изданий.

Нарушений ст. 41 Закона Республики Беларусь "О милиции" при направлении данного письма начальнику управления образования Могоблисполкома не усматривается.

Постановления о привлечении к административной ответственности по ст. 172 ч. 3 КоАП Республики Беларусь Зориной М.В. и Жигеревым Р.А. в установленном порядке правонарушителями не обжаловались.

Также не обжаловались постановления о привлечении к административной ответственности по ст. 162 ч. 1 КоАП Республики Беларусь родителей несовершеннолетних учащихся СШ № 8 г. Бобруйска Савина В.М., Федотьева А.В., Глыцко Е.А.

К административной ответственности указанные лица привлечены законно и обоснованно.

Оснований для принятия мер прокурорского реагирования к сотрудникам УВД Могоблисполкома по факту подготовки и направления в управление образования Могилевского облисполкома письма от 04.05.2001 г. № 19/645, направленного на предотвращение совершения несовершеннолетними учащимися правонарушений в сфере установленного порядка распространения продукции средств массовой информации и печатных изданий, не имеется.

При несогласии с принятым решением Вы вправе обжаловать его в Прокуратуру Республики Беларусь.

Прокурор области
старший советник юстиции
А.К.Дудкин



## Кроніка тыдня ад Сымона Глазштэйна

У вобласьці пабываў амэрыканскі кангрэсмэн Пітэр Дойч. Ягоныя продкі – бабруйскія і глускія габрэі. Але мэтаю візыту амэрыканца да нас было ня толькі наведваньне бацькоўскіх магілаў. Пітэр Дойч цікавіўся лёсам габрэйскай рэлігійнай уласнасьці ў Беларусі. Вядома, што пасьля 1917г. гэты лёс быў выключна сумны. Габрэйскія храмы, як і храмы іншых канфэсіяў, параўтваралі пад склады і разбуралі, зьнішчаючы ўсялякую памяць пра ранейшае існаваньне габрэяў, пра іх культуру і традыцыю. Пасьля сустрэчы зь лідэрамі габрэйскай грамады ў кангрэсмэна не засталося ўражаньня, што ў нас можа штосьці зьмяніцца да лепшага. І тое, што ён не знайшоў магілаў сваіх продкаў – папрок усім нам. Бо пасёньня ня зроблена анічога, каб старыя й новыя могілкі сталіся месцам сапраўднай памяці і шанаваньня.

Нечакана скончылася справа з канфіскаваным уладамі абсталяваньнем незалежнай хоцімскай газэты "Беларускі Ўсход". Варта нагадаць, што да рэдактара газэты Васіля Даўгалёва міліцыянты і пракуроры наведваліся некалькі разоў. Пакуль урэшце не забралі рэдакцыйны кампутар, тэлефаксавы апарат і прынтэр. Пры гэтым нязваныя госьці спасылаліся на сумнавядомы дэкрэт №8. Маўляў, вы атрымалі замежную дапамогу, а ва ўлады дазволу на яе не атрымалі. Суд у Хоцімску адбываўся ўжо пасьля двух падобных працэсаў у Крычаве і Асіповічах, у выніку якіх амэрыканскую тэхніку забралі зноў жа "пад дэкрэт". За гэты час беларускія ўлады паспрабавалі і ў іншых раёнах краіны зрабіць тое ж самае. Вядома, што на гэтыя дзеяньні ўладаў незалежнае беларускае грамадзтва, а таксама амэрыканскі бок адрэагавалі вельмі рашуча. Ці магчыма, каб жорсткая адваротная рэакцыя паўплывала на Хоцімскі суд? Як бы там ні было, ён адхіліў прэтэнзіі праваахоўных органаў да газэты, і незаконна канфіскаваную аргтэхніку вярнулі.

За атрыманьне хабару ў 130 тысячаў рублёў арыштаваны дырэктар міні-рынку "Крыніца". А хабарадаўцам была адна з жанчынаў, што займаецца дробным прадпрымальніцтвам, якая прасіла для сябе гандлёвага месца на рынку. Адзначу ў дадзеным выпадку ня столькі крымінальны аспэкт справы, колькі эканамічны. Дзеля таго каб эканоміка разьвівалася, мусіць існаваць свабодны гандаль, для якога нармальная ўлада стварае ўсе магчымыя ўмовы. А ў нас трэба прабіваць сабе шлях хабарніцтвам.

Пачынае падаць, як і прадказвалі незалежныя эканамісты, абарот зьнешняга гандлю. Паколькі прамысловасьць Магілёва спрацавала горш, чым у мінулым годзе, і ўпершыню за апошнія гады нават мітычны рост вытворчасьці зьнізіўся на 2 адсоткі ў параўнаньні з 2000 годам. Таму аб'ёмы продажу тавараў магілёўскай вытворчасьці ў далёкае замежжа складаюць 74% ад мінулагодніх. А рост гандлю на 7% з рэгіёнамі былога СССР зьвязаны з ростам бартэру, які, як вядома, у стратэгічным сэнсе нават разбэшчвае эканоміку, адвучае ие ад жывых і "нармальных" грошай. Дылема перад кіраўнікамі прадпрыемстваў стаіць зараз: ці то сытуацыю з гандлем выпраўляць, ці то заробкі да 100 даляраў, паводле вядомага абяцаньня, узьнімаць.

Больш за ўсіх кпінаў дастаецца ад цяперашняй улады Магілёўскаму скуранocc заводу. У яго самыя нізкія вытворчыя паказчыкі. Сапраўды, зірнеш на лічбы і думаеш: ці ня час зачыняць прадпрыемства? Да прыкладу, экспарт прадпрыемства склаў усяго 24% ад паказчыкаў 2000г. Старшыня гарвыканкаму Міхаіл Красноў прапанаваў разгледзець пытаньне аб зьмене кіраўніцтва. Дырэктароў мяняць нашыя ўлады навучыліся добра. Але, падаецца, што каб завод запрацаваў, яму даўно патрабуюцца моцныя інвэстыцыйныя ўліваньні. Ды вось жа адкуль ім сёньня ўзяцца?

Гарадзкі савет Магілёва вырашыў прадаць будынак найстарэйшай навучальнай установы – былой гімназіі па вул. Ленінскай. Па ўмовах продажу, нельга будзе толькі вонкавы выгляд зьмяняць. Усё астатняе – на волю новых гаспадароў. Мала веры, што тыя высакародна знойдуць месца для школьнікаў у гістарычным будынку. Між тым гэты будынак, як і парк Дэмбавецкага (Горкага) ды сквэр Тэатральны (Мураўёўскі), быў неад'емнай часткай выгляду Магілёва. На жаль, гісторыя ўласнага гораду для сёньняшніх уладаў – нішто...

*Сустрэнемся праз тыдзень.*
*Сымон Глазштэйн.*

### КАНДЫДАЦКІ ВІЗЫТ: ПРАЦЯГ

# Зьмест сустрэчы ў форме маналёгу

***Пасьля вулічнай сустрэчы Ў.Ганчарык прыняў удзел у абласной нарадзе прафсаюзнага актыву, якую старшыня аблфэдэрацыі Анатоль Любчанка склікаў для абмеркаваньня паўгадовых вынікаў выкананьня Пагадненьня прафсаюзаў з адміністрацыяй вобласьці. Аднак прысутнасьць кандыдата ў прэзыдэнты, да таго ж свайго для прафсаюзаў чалавека, павярнула нараду ў зацікаўленую з абодвух бакоў выбарчую гаворку. Тым чынам ніжэй пададзеныя думкі і выказваньні Ў.Ганчарыка занатаваныя падчас абедзьвюх сустрэчаў. Для чытальніцкай зручнасьці яны зробленыя ў форме маналёгу.***

## Пра першыя крокі

На самым пачатку будуць адмененыя дурныя абмежаваньні ў эканоміцы. Залішнія ўзгадненьні, непатрэбнае ліцэнзаваньне, несамастойнасьць прадпрыемстваў і асабліва калгаснай вёскі, цяжкасьці ў працэдуры стварэньня новых прыватных рабочых месцаў, бясконцыя праверкі і дзікія штрафы, наогул усякае адміністрацыйнае ўмяшальніцтва ў жыцьцё – усяго гэтага ня будзе. Я павінен адразу вярнуць свой доўг рабочым, а менавіта – аднавіць на працы незаконна звольненых Міністэрствам транспарту у 95-ым годзе за памятны многім справядлівы страйк менскіх мэтрапалітэнаўцаў. У новага ўраду, які практычна сфармаваны, ужо расьпісана ўсё па днях: што і як рэальна трэба зрабіць, каб хутка і эфэктыўна выправіць становішча. Мы ліквідуем падвойны дзяржаўны бюджэт, які існуе цяпер: адзін у краіны, другі – у Лукашэнкі. Разьбярэмся, дарэчы, адкуль ён і на што ідзе. Тэрмінова возьмемся за ратаваньне вёскі, а не калгасаў – вёскі зь яе людзьмі, якіх губляем штодня з-за п'янства, беспрацоўя, бясконцага камандаваньня, засільля чынавенства. Мы абавязкова разьбярэмся ў тым, хто аддаваў загады на зьнішчэньне, пад выглядам раптоўнага зьнікненьня, многіх вядомых у краіне людзей. Мы зробім так, каб тэрмінова была ліквідаваная тая "жалезная" заслона, што ахутвае краіну зараз, каб зьнікла міжнародная ізаляцыя, у якой па віне цяперашняга рэжыму апынулася наша дзяржава. Наогул скажу коратка: мяняць трэба сыстэму, якая паўстала ў выніку праўленьня Лукашэнкі. Іначай прыйдзе такі ж другі. Загвздка ў нецывілізаванай, недэмакратычнай, дыктатарскай сыстэме. Вось што трэба мяняць.

## Пра адзінага кандыдата

Узгадненьне гэтай праблемы было цяжкім і працяглым. Сямён Домаш зрабіў мужчынскі сумленны ўчынак. За бортам выбарчай кампаніі засталіся па розных прычынах выдатныя людзі. Аднак выпаў гэты крыж на мяне – я буду яго сумленна несьці з дапамогай вашай і гэтых людзей. Мы так пагадзіліся. Так што цяпер я ня сам па сабе, за мной і са мной – усе альтэрнатыўныя, апазыцыйныя кандыдаты. Калі хто меў намер галасаваць за каго зь іх, прыкладам, за Домаша ці Марыніча, за Ярашука ці Чыгіра – так і галасуйце, але цяпер у маёй асобе. Зараз мы ўсе ня маем права распыляцца, разьбягацца. Мы лавінны быць разам, тады пераможам. Вяліся ў нас перамовы і з Гайдукевічам, але гэта, на маю думку, чалавек, які адное гаворыць, другое робіць, а думае трэцяе. А ўсе астатнія цяпер – гэта адна каманда, адзіны штаб, адна плятформа і тактыка.

## Пра выбары

Лукашэнкам прынятае рашэньне, па якім трэба забясьпечыць 30 адсоткаў "датэрміновага" галасаваньня. Зразумела, для чаго гэта робіцца. Прынятае таксама рашэньне пра тое, што калі ў першым туры ён не атрымае на якой тэрыторыі перамогі – будуць звольненыя з пасадаў старшыні гэтых выканкамаў, начальнікі КГБ, міліцыі й іншыя адказныя асобы. Каб уратаваць гэтых людзей, мы й павінны перамагчы ў першым туры. Днямі былі праведзеныя так званыя вучэньні спэцбрыгадаў унутраных войскаў "па разгону дэманстрацыяў". У краіне ўсё яшчэ не дапускаюцца незалежныя міжнародныя назіральнікі. Аднак мы верым, што далёка ня ўсе нашыя людзі, у тым ліку так званая намэнклятура, запалоханыя і гатовыя пайсьці супраць законаў, пайсьці на злачынствы, калі называць рэчы сваімі імёнамі. Яны павінны помніць пра адказнасьць перад законам, народам і перад Богам. Мы аб гэтым іх папярэджваем і спадзяемся на адпаведную рэакцыю. Ня будзе, дарэчы, ніякага разгону намэнклятуры без разбору. Паверце мне, там шмат прафэсійных, сумленных людзей. Яны будуць працаваць там, дзе й зараз, але ў новай сыстэме, падкантрольнай грамадзтву, а не аднаму чалавеку. А значыць – працаваць больш эфэктыўна і без пастаяннага страху.

## Пра годнасьць

Я – беларус, з нармальнага беларускага вясковага роду, якім ганаруся. Ганаруся сваёй сям'ёй, матуляй, якая на шчасьце жывая, братам, сёстрамі, дзецьмі. Люблю сваю краіну, але бывае так балюча, калі даводзіцца перажываць за яе сорам. А даводзіцца... Яшчэ крыху – зусім станем краінай-ізгоем. Адзін чалавек па сваім меркаваньні падзяліў нас на чэсных і нячэсных, на адданых і здраднікаў. Пры гэтым здраднікамі ў нас называюць патрыётаў. Амаль зьнішчаная аказалася родная мова, схаваная – уласная гісторыя, забытай і замененай на замежную эрзац-эстраду – нацыянальная культура. Пасутнасьці няма сёньня такой краіны як Беларусь, ёсьць нейкі дзіўны дадатак да ўсходняй суседкі. Так не павінна і ня можа быць. Мы станем сапраўды суверэннай краінай і захаваем пры гэтым дружалюбныя на агульную карысьць адносіны з усімі нармальнымі краінамі. У нас дастаткова рэсурсаў, найперш чалавечых, каб аднавіць краіну і заняць у сьвеце пачэснае, роўнае ў цывілізаваным асяродзьдзі народаў месца. Ня будзем больш саромецца ні краіны, ні сябе.



Фота Д.Новікава



НЕЗАЛЕЖНАЕ НАЗІРАНЬНЕ
ГРАМАДЗЯНСКАЯ ІНІЦЫЯТЫВА

Адно з асноўных парушэнняў парадку галасавання ў дзень выбараў – **маніпуляцыі з бюлетэнямі.**
Незалежныя назіральнікі гарантуюць парадак на выбарах.

**Не дапусьціць фальсіфікацый вынікаў галасавання!**

# ЗА ПРАЎДУ!

НАРОДНЫ КАНТРОЛЬ

*Тэлефон: 25-84-00*

## Канструктыўны падыход... на карысьць суседа

***Вось як пракамэнтаваў расейска-беларускія дачыненьні напярэдадні завяршэньня кампаніі па выбарах прэзыдэнта Беларусі дырэктар маскоўскага цэнтру стратэгічных дасьледаваньняў Андрэй П'янткоўскі:***

– Даўно сталася зразумелым, што сёньняшні расейскі прэзыдэнт зусім не захапляецца Лукашэнкам. Вы ведаеце, што прадстаўнікі беларускай апазыцыі былі ў Маскве, дамаўляліся з нашай Адміністрацыяй. Мне здавалася, што Масква хоча падтрымаць апазыцыйнага кандыдата. Аднак цяпер я мяркую, што Пуцін, пасьля вельмі няўдалага з палітычнага пункту гледжаньня візыту на "Славянскі базар", дакладна ня ведае што рабіць. Выглядае, што ён зноў, як і па шмат якіх іншых праблемах, ня можа прыняць канчатковага рашэньня.

Пры тым, што ён цудоўна ведае, што такое Лукашэнка: усе былыя начальнікі сілавых структураў Беларусі зараз жывуць у Маскве. Можа, Лукашэнка й пераможа на гэтых выбарах, аднак ён напэўна не пазьбегне адказнасьці. Ягоная палітычная сьмерць непазьбежная.

Канешне, вырашальную ролю будзе граць наша тэлевізія. Калі перастануць, напрыклад, хаваць тыя факты, што ў вас адбываецца. Я спадзяюся на тое, што хаця б кампанія ОРТ праявіць салідарнасьць са зьніклым у Менску калегам і зойме ў адносінах да Лукашэнкі рэзкую пазыцыю, нават бяз згоды Крамля... Да таго ж відавочна, што Лукашэнка цяпер вельмі напужаўся й можа нарабіць шмат глупстваў.

Зараз усе ў Маскве разумеюць, што Лукашэнка ніколі ня пойдзе на аб'яднаньне ў адзіную дзяржаву з Расеяй, бо ніколі не памяняе сваю ролю дыктатара эўрапейскай краіны на ролю першага сакратара менскага абкаму. Ілюзіі з адзінай дзяржавай скончыліся. Пазыцыя ж Ганчарыка і, па-мойму, усёй аб'яднанай апазыцыі даволі канструктыўная. Яны – за самае шчыльнае супрацоўніцтва двух незалежных дзяржаваў. Рэальныя праблемы – гэта не стварэньне нейкіх аб'яднаўчых структураў, нікому непатрэбных агульных парлямэнтаў ці ўрадаў. Маскву насамрэч цікавяць транспарт, супрацьпаветраная абарона, удзел у прыватызацыі ў Беларусі. Ганчарык гатовы вырашаць гэтыя пытаньні вельмі канструктыўна для Масквы. Гэта ж не Пазьняк, таму ніякіх разрываў з Масквой ня будзе. Будуць, аднак, дэбаты...

***Скарочаны пераклад на беларускую мову з "БДГ" наш – "ТМ"***

АБ'ЕКТЫЎНА ПРА РЭАЛЬНАЕ

RR

РАДЫЁ РАЦЫЯ

НА СЯРЭДНІХ ХВАЛЯХ
1080 кГц (490 м) 22:00-24:00
612 кГц (490 м) 07:00-11:00

НА КАРОТКІХ ХВАЛЯХ
6035 кГц (49 м) 07:00-09:00
6180 кГц (49 м) 13:00-15:00
6010 кГц (49 м) 21:00-23:00

WWW.RACYJA.PL

220102, Менск, а/с 144

ЖЫЦЬЦЁ. КРАІНА. ВЫБАРЫ

## Асаблівасьці "дэмакратыі па-беларуску"

***Выбарчая прэзыдэнцкая кампанія завяршаецца. Пасьля рэгістрацыі кандыдатаў пачалася перадвыбарчая агітацыя. Хутка ўжо галасаваньне й падвядзеньне вынікаў. "Выбары павінны быць праведзеныя такім чынам, каб выбаршчыкі маглі прыняць сьвядомае рашэньне", – кажа экспэрт Цэнтру канстытуцыяналізму і параўнаўча-прававых дасьледаваньняў Сяргей АЛЬФЭР. Але беларускія ўлады, выглядае, думаюць інакш. Усе сілы дзяржаўнага апарату, увесь адміністратыўны рэсурс выкарыстоўваецца для забесьпячэньня перамогі Лукашэнкі. Пры гэтым ўлады нават ня хочуць хоць неяк замаскіраваць свае дзеяньні. Цэнтральная камісія па выбарах і правядзеньні рэспубліканскіх рэфэрэндумаў, якая павінна забясьпечваць выкананьне выбарчага заканадаўства, падае прыклад зьняважлівага, нядбайнага да яго стаўленьня. Ці магчымая ў гэтай сытуацыі перамога дэмакратычных сілаў? Якія палітычныя тэхналёгіі будуць выкарыстоўвацца бліжэйшым часам? Пра гэта зь Сяргеем Альфэрам размаўляў журналіст і юрыст Андрэй БАСТУНЕЦ.***

**А.Б.:** Мне падаецца, што прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі праводзяцца пад лёзунгам: ня будзе беларускага Каштуніцы. Улады добра вывучылі югаслаўскі вопыт і зрабілі высновы. У Югаславіі, напрыклад, прадстаўнікі дэмакратычных сілаў увайшлі ў склад выбарчых камісіяў. Там апазыцыйныя сілы ў час атрымалі доступ да тэлеэфіру. Выглядае, што ўлады й надалей будуць блякаваць усе магчымыя дзеяньні апазыцыі, падобныя на югаслаўскія.

**С.А.:** Магу пагадзіцца з вамі. Спашлюся нават на словы кандыдата на прэзыдэнта Ганчарыка: "Ня будзе беларускага Каштуніцы, будзе Ганчарык". А наогул параўноўваць сытуацыю зь югаслаўскай ня трэба. Па-першае, там Мілошавіч ня быў у стане паўплываць на склад выбарчых камісіяў, акрамя Цэнтральнай. Яны фармаваліся паводле партыйных сьпісаў тых партыяў, што прайшлі ў парлямэнт па прапарцыйнай сыстэме выбараў. Таму сфальсыфікаваць вынікі выбараў у Югаславіі мог толькі Цэнтарвыбаркам, – што ён і пытаўся зрабіць. Па-другое, там падчас фармаваньня мясцовых органаў улады перамаглі, асабліва ў вялікіх гарадах, дэмакратычныя сілы. Такім чынам апазыцыянэры маглі без перашкодаў агітаваць за свайго кандыдата, у тым ліку ў Бялградзе, дзе мясцовы ўрад таксама быў у апазыцыі да Мілошавіча.

Што да агітацыі, то ўлады ў нас рознымі спосабамі перашкаджаюць агітаваць за іншых, акрамя Лукашэнкі, кандыдатаў. У Дэкрэце №11 гаворыцца, што любыя масавыя мерапрыемствы й пікетаваньні за 5 і менш дзён да выбараў можна праводзіць толькі ў адмыслова вызначаных месцах. У Менску, напрыклад, такіх месцаў толькі тры, і ўсе яны амаль па-за горадам. Менгарвыканкам вызначыў, парушыўшы выбарчае заканадаўства, што ў гэтых, як іх называюць, сабачніках, павінны праводзіцца ***ўсе*** масавыя мерапрыемствы на працягу ***ўсіх дзён*** агітацыйнай кампаніі. Прычым – толькі зь яговай згоды й паводле закону "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні". Гэта значыць, што трэба падаваць заяўку за 15 дзён...

**А.Б.:** ЦВК ж наогул выдала пастанову, згодна якой кандыдаты могуць сустракацца з выбаршчыкамі ня толькі на вуліцы, але і ў памяшканьнях толькі з дазволу выбарчых камісіяў і мясцовых выканкамаў – "в порядке очерёдности". Пасьля такога ўжо амаль спакойна ўспрымаецца рашэньне Менгарвыканкаму ўзяць пад кантроль разьмяшчэньне друкаваных матэрыялаў: гэта можна цяпер рабіць у сталіцы толькі ў 94-х стацыянарных кропках...

**С.А.:** Трэба заўважыць, што ў Менску ўсё ж далі дазвол на разьмяшчэньне агітацыйных матэрыялаў на ўжо існуючых стэндах ЖЭУ, інтэрнатаў, кінатэатраў, паліклінікаў... Хаця такіх кропак ўсё роўна недастаткова – каля 500. А выбарчых участкаў больш за 700. Між тым закон патрабуе, каб агітацыйныя матэрыялы былі разьмешчаныя на тэрыторыі кожнага ўчастка.

**А.Б.:** У выбарчым заканадаўстве гаворыцца, што **ўсе** дзяржаўныя СМІ, і ня толькі цалкам, але і часткова дзяржаўныя, абавязаныя забясьпечваць роўныя магчымасьці для перадвыбарчых выступаў кандыдатаў і для агітацыі. А Цэнтарвыбаркам у сваёй пастанове скарачае пералік такіх друкаваных выданьняў, выкідвае зь яго наогул рэгіянальныя і "спэцыялізаваныя" газэты. Між тым Лукашэнка на іхніх старонках прысутнічае пастаянна...

**С.А.:** Так, Цэнтарвыбаркам адвольна абыходзіцца з нормамі кодэксу. Цікава, што ён увогуле ня мае права ***тлумачыць*** гэтыя нормы, а можа толькі ***растлумачваць*** іх.

У 1994 годзе толькі дзякуючы дэмакратыі Лукашэнка здолеў прыйсьці да ўлады. Цяпер ён улічвае гэта, і не дае іншым кандыдатам скарыстаць падобныя магчымасьці, у тым ліку атрымаць доступ да электронных СМІ. Сёньня Лукашэнка прайграў бы зь любым кандыдатам тэледэбаты, як Кебіч у свой час прайграў яму.

**А.Б.:** Лукашэнка вельмі баіцца прайграць. Доўгатэрміновае назіраньне з боку эўрапейскіх структураў ужо сарванае. На беларускія арганізацыі, што займаюцца падрыхтоўкай незалежнага назіраньня, пастаянна робяцца наезды (у простым і жаргонным сэньсе гэтага слова адначасна). Тым часам ўлады арганізоўваюць сваё "назіраньне"...

**С.А.:** Я ўпэўнены, што перашкодзіць незалежнаму назіраньню ўлады ня здолеюць, і практычна ўсе ўчасткі будуць "закрытыя" назіральнікамі. Але практыка паказвае, што ўзровень фальсыфікацыяў у самы дзень выбараў невялікі – 2-3% (без уліку вынікаў галасаваньня па месцу жыхарства, якія спраўдзіць вельмі цяжка). Нашмат больш магчымасьцяў для фальсыфікату ў пэрыяд датэрміновага галасаваньня. Сёньня гэта – амаль непадкантрольны працэс, у часе якога можна спакойна замяніць бюлетэні на новыя.

**А.Б.:** Падобна на тое, што выбары прызначылі на 9 верасьня таму, каб частка пратэстнага электарату прагаласавала датэрмінова, ці наогул не прагаласавала. Напрыклад, ёсьць зьвесткі пра тое, што студэнтаў адпраўляць на "картошку" раней, да 9-га. Тады як электарат Лукашэнкі – "цьвёрдыя" 20% – абавязкова возьмуць удзел у галасаваньні.

**С.А.:** Апытаньні паказваюць, што цяпер каля 90% зьбіраюцца прыйсьці на ўчасткі. І гэта добра, бо часьцей за ўсё ў нас ня ходзяць галасаваць якраз тыя людзі, якім не падабаецца палітыка сёньняшняга рэжыму. Я бы заклікаў людзей не галасаваць датэрмінова, а прыйсьці на ўчасткі ***толькі 9-га верасьня***, калі мы хочам бачыць Беларусь свабоднай і цывілізаванай краінай.

**А.Б.:** Вядома, што ўлады выступілі супраць паралельнага падліку галасоў, пераблытаўшы яго з анкетаваньнем выбаршчыкаў пры выхадзе з участкаў (мэтад "exit poll")...

**С.А.:** Між тым, exit poll – гэта проста сацыялягічнае апытаньне. І рабіць яго будуць не назіральнікі, супраць чаго справядліва пратэстуе Міністэрства юстыцыі РБ, а падрыхтаваныя сацыялягічныя групы. Гэта не парушэньне. Мэтад гэты практыкуецца ва ўсім сьвеце. У Югаславіі менавіта такім чынам былі атрыманыя дадзеныя аб тым, што перамог насамрэч Каштуніца. Потым, як вядома, гэтыя дадзеныя былі пацьверджаныя афіцыйнымі пратаколамі. Што да паралельнага падліку галасоў, які нашыя ўлады пераблыталі з exit poll, то гэта – апэратыўнае атрыманьне ды абагульненьне ***афіцыйных вынікаў*** галасаваньня на пэўнай колькасьці ўчасткаў, якія былі заранёў адабраныя паводле спэцыяльнага мэтаду. Гэтыя вынікі будуць перададзеныя ў цэнтар апрацоўкі інфармацыі. На іх падставе, зь верагоднай памылкай у 2-3%, можна будзе спрагназаваць вынікі выбараў па ўсёй краіне. Заблякаваць камунікацыі падчас перадачы гэтай інфармацыі немагчыма. Беларускі народ усё роўна атрымае гэтую інфармацыю праз незалежныя СМІ, – раней, чым сваю прадаставяць улады. І калі ўлады скажуць, што Лукашэнку падтрымваюць 90%, і гэта пацьвердзіцца, – мы гэта прызнаем. Аднак, калі за яго прагаласуе менш за 40% выбаршчыкаў, а нам аб'явяць іншы вынік, то гэта будзе захоп улады неканстытуцыйным шляхам. І будуць зробленыя адпаведныя высновы.

**А.Б.:** А якімі могуць быць наступствы? Лукашэнка ўжо аб'явіў, што не аддасьць уладу, як Мілошавіч, а зьвернецца па дапамогу да спэцыяльных падразьдзяленьняў унутраных ды іншых войскаў. Што можа тут апазыцыя супрацьпаставіць?

**С.А.:** Тады ўсё будзе залежаць ад беларускага народу. Калі ён будзе пратэставаць, то такая ўлада пратрымаецца столькі ж, колькі пратрымалася ў Югаславіі. Калі ж не – апазыцыя нічога ня зробіць. Але я ўпэўнены, што фальсыфікацыя вынікаў выбараў справакуе народны ўздым. Тады дай Божа ўтрымаць яго ў межах закону.







# Зварот да былых калегаў

Паважаныя кіраўнікі ўсіх узроўняў!

Зьвяртаюся да Вас як да сваіх учарашніх калегаў. Дзясяткі гадоў жыцьця я аддаў кіраўніцкай дзейнасьці. Разумею ўсю складанасьць і адказнасьць вашай працы. Разам з тым, нават знаходзячыся ў турме ў 1996-2000г.г., я бачыў, як вас запужваюць і зьдзекуюцца з вас. І зараз я ведаю, як вас схіляюць да зьдзяйсьненьня крымінальнага злачынства тыя, хто рыхтуе фальсыфікацыю прэзыдэнцкіх выбараў. Уяўляю, як вам сёньня цяжка. Аднак у дадзеных абставінах лічу правільным спаслацца на ўласны прыклад. Займаючы высокую дзяржаўную пасаду, я служыў не Лукашэнку, а народу. Служыў, пакуль тое было магчыма. Адкідаць грамадзянскія прынцыпы, ісьці супраць законаў – значыць рабіць зло сваёй Бацькаўшчыне, пазбаўляць нашых дзяцей і ўнукаў будучыні. Сёньня мы ўсе павінны паставіць кропкі над "і". Беларусь за апошнія сем год ніколі не была настолькі моцнаю, як сёньня, каб выйсьці з канчатковага тупіку, у які загнаў яе Лукашэнка.

Выбар, які зробяць беларусы 9 верасьня, павінен пакласьці канец прававаму і маральнаму "беспределу", які зьдзяйсьняе Лукашэнка. 10 верасьня мы павінны прачнуцца ў іншай краіне, дзе слова "свабода" ня будзе пустым гукам. Там, дзе законы рэальна пераўзыйдуць палітычнае тыранства й карысныя амбіцыі. Дзе, нарэшце, у нас і нашых дзяцей зьявіцца пэрспэктыва дастойнага жыцьця.

Зусім нядаўна Беларусь лічылі адной з самых разьвітых рэспублікаў былога СССР. Мы мелі дастаткова магчымасьцяў, каб жыць на ўзроўні сёньняшніх чэхаў, у якіх сярэдні заробак складае зараз каля 800 амэрыканскіх даляраў. Але, на жаль, мы канстатуем наступны факт: большасьць нашых людзей за апошнія гады кіраваньня Лукашэнкі апынуліся за мяжой жабрацтва.

Нацыянальная эканоміка – на мяжы катастрофы. Фактычна, ніводнае абяцаньне Лукашэнкі, што ён даў сем гадоў таму, ня выканае. Цяперашні сярэдні заробак беларуса каля 70 даляраў, а ў сельскай гаспадарцы – толькі 20 даляраў. У Польшчы за гэты пэрыяд сярэдні заробак вырас з 285 да 370 даляраў, у Літве – з 163 да 281. Напярэдадні прэзыдэнцкіх выбараў беларускі народ працягваюць спакушаць стодаляравым заробкам, хоць ужо зараз бачна, што большасьць людзей яго не атрымаюць.

Тым ня менш бліжэйшае атачэньне Лукашэнкі, ягоныя кішэнныя сродкі масавай інфармацыі з маніякальнай настойлівасьцю распаўсюджваюць міт аб "вярхоўным галоўнакамандуючым", працягваюць забіваць галовы беларусаў думкаю аб тым, што нельга знайсьці яму замену.

Я павінен адказна заявіць: у гэтай выбарчай кампаніі Лукашэнка наогул ня мае юрыдычных падставаў балятавацца, бо ён ужо даўным-даўно адпрацаваў свой прэзыдэнцкі тэрмін, што быў вызначаны Канстытуцыяй. Ужо трэці год Лукашэнка ўтрымлівае ўладу нелегітымным шляхам. Гэта пацьвярджаюць ня толькі нашыя незаангажаваныя праўнікі, але і аўтарытэтныя замежныя юрысты, у тым ліку расейскія экспэрты.

Больш за тое, Лукашэнка ня мае ніякага маральнага права заставацца на пасадзе. Вы, паважаныя кіраўнікі, ведаеце, што адзіны кандыдат ад шырокай грамадзянскай кааліцыі Уладзімер Ганчарык перадаў грамадзкасьці дакумэнты, якія паказваюць, што кіруючая краінай эліта мае дачыненьне да гвалтоўных выкраданьняў і, магчыма, забойстваў былога міністра ўнутраных справаў РБ Юрыя Захаранкі, першага намесьніка Вярхоўнага Савету РБ 13 скліканьня Віктара Ганчара і прадпрымальніка Анатоля Красоўскага. Усе асобы, што фігуруюць у якасьці арганізатараў і выканаўцаў гэтых забойстваў – сёньняшні генэральны пракурор Шэйман, намесьнік кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Сівакоў, камандзір брыгады спэцыяльнага прызначэньня Паўлючэнка – не даюць ясных адказаў, тым самым прызнаючы сваю віну. Нічога канкрэтнага, што магло б зьняць зь іх абвінавачваньні, ня можа сказаць і Лукашэнка. Няўжо вы, паважаныя кіраўнікі, і надалей гатовыя служыць таму, хто фактычна абараняе сваіх падначаленых, якіх падазраюць у забойствах вядомых у краіне людзей?

Паважаныя члены ўраду, кіраўнікі вобласьцяў і раёнаў, прадпрыемстваў і арганізацыяў, калгасаў і саўгасаў, кантораў і установаў! Колькі ж можна трываць бясконцыя абразы і зьдзекі чалавека, які пастаянна хлусіць, патрабуючы ад вас падтрымкі ягонага авантурнага курсу? Я кіруюся ня помстай былога міністра сельскай гаспадаркі, які тры гады адседзеў у турме за некалькі кілаграмаў быццам бы скрадзенага мяса. Я папрасту хачу, каб вы да канца зразумелі: заўтра на маім месцы, на месцы экс-прэм'ера Міхаіла Чыгіра, які восем месяцаў правёў на нарах, на месцы іншых высокіх, сярэдніх ды малых чыноўнікаў, якія мелі ўласныя незалежныя погляды, можа аказацца **кожны** з вас. Няўжо вам, тым, хто прайшоў сур'ёзную жыцьцёвую школу, дасягнуў салідных кар'ерных высотаў, не надакучыла дрыжэць ад страху? Тым больш што пужае вас чалавек, які нічога ў жыцьці ня ўмее, акрамя як зьнішчаць палітычных апанэнтаў і запужваць няўгодных людзей.

...Цяпер, калі да выбараў застаецца мала часу, ад Вас патрабуецца толькі адно: **няўхільнае выкананьне законаў Рэспублікі Беларусь.** Каб пасьля 9 верасьня ня сорамна было глядзець у вочы ўласным дзецям, нагадаю: злачынствы, зьвязаныя з фальсыфікацыяй вынікаў выбараў, ня маюць тэрміну даўніны. А бязь іх, фальсыфікацыяў, Лукашэнка прайграе...

Ад вашай мужнасьці і грамадзянскай пазыцыі, паважаныя кіраўнікі, залежыць лёс дзесяцімільённага беларускага народа.

***Васіль ЛЯВОНАЎ,***
***старшыня аргкамітэту грамадзкага руху "За новую Беларусь"***

# Другі пікет у міліцэйскім пастарунку

***У аўторак 21 жніўня – у дзень сынхроннага правядзеньня ў Менску і буйнейшых гарадах краіны акцыяў "Стань у ланцуг неабыякавых людзей" – магілёўскі пікет па традыцыі скончыўся ў міліцэйскім пастарунку.***

Каля 17-й гадзіны група маладых людзей з 25 чалавек у другі раз за апошні тыдзень выстраілася непадалёк ад дыягнастычнага цэнтру з партрэтамі зьніклых палітыкаў Ю.Захаранкі і В.Ганчара, бізнэсоўца А.Красоўскага і журналіста Д.Завадзкага. Літаральна праз некалькі хвілінаў да месца маўклівага, але выразнага пікету набеглі міліцыянты на чале зь вядомым па ранейшых затрыманьнях падпалкоўнікам Ермаковым, да якога хутка далучыўся намесьнік начальніка абласнога ўпраўленьня міліцыі падпалкоўнік Самсонаў. Яны загадалі людзям тэрмінова спыніць дэманстрацыю і разыйсьціся. Ніякага часу ў пікетоўшчыкаў на раздумваньне не было, бо адразу ж пасьля распараджэньня падначаленыя падпалкоўнікаў пачалі вырываць у моладзі партрэты і штурхаць людзей у бок бліжэйшага пастарунку. Аднак да гэтага моманту вакол сабралася нямала мінакоў, якія актыўна ўзялі бок пікетоўшчыкаў. Людзі выкрыквалі ў бок міліцыянтаў крыўдныя словы, аднак тыя, адводзячы вочы, працягвалі выконваць загад на затрыманьне людзей. А падпалкоўнік Ермакоў праз мэгафон папярэдзіў спачувальны да пікетоўшчыкаў натоўп, што можа затрымаць і тых, ад каго пачуе абражальныя выкрыкі, што аднак ніколькі не суцішыла людзей.

Трох затрыманых тым часам даставілі ў пастарунак, куды накіраваліся й выкліканыя ўдзельнікамі акцыі праваабаронца Ў.Краўчанка і аўтар гэтых радкоў. Іх ветліва прыняў нядаўна прызначаны начальнікам райаддзела Леанід Анушэўскі, які запэўніў гасьцей, што "недоразумение" будзе вырашанае за 10-15 хвілінаў. Тым часам затрыманы дэмакратычны актывіст У.Гайдукоў даводзіў міліцыянтам, што ўдзельнікі пікету мелі на мэце дапамагчы міліцыі ў пошуку зьніклых праз прыцягненьне ўвагі людзей да гэтай праблемы. Ён таксама працытаваў з Канстытуцыі краіны, якую меў пры сабе, тыя артыкулы, што гарантуюць грамадзянам свабоднае праяўленьне сваіх поглядаў у вольнай форме. Тым часам у райаддзел патэлефанаваў намесьнік пракурора раёна Мурашкевіч і распарадзіўся адпусьціць затрыманых да заўтрашняга разьбіральніцтва. Міліцыя яго не паслухалася. На затрыманых працягвалі складаць пратаколы, іх распытвалі пра абставіны здарэньня і г.д. Такім чынам, абяцаныя афіцэрам Анушэўскім 10-15 хвілінаў расцягнуліся да позьняга вечара. Магчыма, што затрыманых цяпер чакае адміністрацыйны суд.

Але ўдзельнікі акцыі задаволеныя тым, што адчулі падтрымку далёкіх ад "палітыкі" выпадковых магілёўцаў і, магчыма, сапраўды выклікалі хоць бы ў некалькіх чалавек жаданьне скінуць зь сябе абыякавасьць, якая сталася ў нас ледзь ня першай рысай нацыянальнага характару.

***А.АЛЕКСАНДРОВІЧ,***
***карэспандэнт "БДГ" – адмыслова для "ТМ"***



# За роўныя правілы і магчымасьці

***Восем грамадзкіх аб'яднаньняў краіны, што займаюцца праблемамі інвалідаў, падрыхтавалі адкрыты ліст да кандыдатаў у прэзыдэнты Беларусі.***

Яны прапануюць унесьці ў перадвыбарчыя праграмы кандыдатаў пяць пунктаў адносна вырашэньня сацыяльна-эканамічных праблемаў інвалідаў, у тым ліку дзяцей-інвалідаў. Найперш, на думку аўтараў ліста, патрэбна распрацаваць нацыянальную праграму пасьлядоўнага і комплекснага ўвядзеньня "Стандартных правілаў забесьпячэньня роўных магчымасьцяў для інвалідаў", прынятых 48-й сэсіяй Генэральнай Асамблеі ААН 20 сьнежня 1993 году. Павінен у краіне быць і закон "Пра дзейнасьць грамадзкіх аб'яднаньняў інвалідаў і дабрачынны дзейнасьці ў Рэспубліцы Беларусь". Перагляду з улікам пражытачнага мінімуму патрабуе цяперашні парадак налічэньня і выплаты пэнсіяў і дапамогі інвалідам і тым, хто іх даглядае.

Прапановы да кандыдатаў на прэзыдэнцкую пасаду былі прынятыя падчас правядзеньня ў Гомлі "кольнага стала", зарганізаванага на ініцыятыву "Асацыяцыі сем'яў дзяцей-інвалідаў з цэрабральным паралічам і сьпінамазгавымі паталёгіямі".

Удзельнікі таксама адзначылі, што зараз інваліды ня могуць жыць паўнавартасным жыцьцём, паколькі ні жылыя памяшканьні, ні транспарт, ні месцы агульнага карыстаньня, ні культурна-спартыўныя ды навучальныя ўстановы для іх недаступныя.

***Казімер ЯНОЎСКІ***

# Чорны каляндар

У новае стагодзьдзе Беларусь уваходзіць з цэнзурай, палітычнымі вязьнямі і трагічнымі зьнікненьнямі людзей.

**Ад 7 траўня 1999 году няма Юрыя Захаранкі, ад 16 верасьня 1999-га няма Віктара Ганчара і Анатоля Красоўскага, ад 7 ліпеня 2000-га – Зьмітра Завадзкага. Разам іх няма ўжо 2645 дзён.**

Ужо месяц прайшоў, як з пракуратуры Беларусі паведамілі, што справа аб выкраданьні Зьмітра Завадзкага расьсьледаваная, што яна патрапіла ў суд і хутка будзе прызначаны дзень, калі пачнецца працэс над выкрадальнікамі журналіста, але дагэтуль гэты дзень не названы. У Вярхоўным судзе кажуць, што пытаньне яшчэ ня вырашанае й раюць зьвярнуцца яшчэ праз тыдзень. Між тым, нагадаю словы Лукашэнкі, які абяцаў, што ў жніўні ўжо будуць названыя злачынцы.

Гэтаксама ў тупіку знаходзіцца справа экс-міністра ўнутраных справаў Юрыя Захаранкі – тут сьледчыя нават ня кажуць пра завяршэньне расьсьледаваньня. Затое, паводле паведамленьня БТ, Захаранка быццам бы скраў у прадпрымальнікаў 70 тысяч даляраў. Па сёньня, дарэчы, сьледзтва займаецца ў тым ліку "грашовай" вэрсіяй выкраданьня генэрала, але пакуль ня здолела атрымаць фактаў ці доказаў у яе пацьвярджэньне.

Днямі Людміла Карпенка ды Ірына Красоўская наведалі каля дзесяці вялікіх і маленькіх гарадоў на захадзе Беларусі, сустрэліся з сотнямі людзей. Удава Генадзя Карпенкі, падводзячы вынікі гэтых сустрэчаў, адзначыла павялічанае жаданьне людзей разабрацца ў тым, што адбываецца ў краіне. Зразумела, пасьля гэтых сустрэчаў заставаліся і ўражаньні пра тое, як людзі зьбіраюцца галасаваць. Паводле назіраньняў Людмілы Карпенкі, чынавенства ў заходніх раёнах краіны спадзяецца на перамогу дэмакратычнага кандыдата, але дэманстраваць гэтыя спадзяваньні баіцца.

Нядаўна некаторыя інфармацыйныя агенцыі атрымалі паведамленьне нейкага ананіма, які быццам ведае, што Віктара Ганчара бачылі жывым у Расеі. Зінаіда Ганчар заявіла, што ня верыць у гэта, асабліва таму, што гэтыя зьвесткі зьявіліся напярэдадні выбараў, калі так патрэбна заблытаць людзей.

І яшчэ адна важная інфармацыя. Кампанія БелаПАН паведаміла са спасылкай на памочніка дзяржсакратара ЗША па эўрапейскіх справах Элізабэт Джонс пра тое, што беларускія ўлады адмовіліся ад амэрыканскай дапамогі ў справе расьсьледваньня фактаў зьнікненьняў нашых апазыцыянэраў.

*Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ*

## ВЕСТКІ З ВЫБАРЧАЙ ПРАСТОРЫ

# Кальцо сьціскаецца нібы вакол якіх ворагаў

**Учора а другой палове дня** міліцэйскі пастарункавы інспэктар разам з прадстаўніком ЖЭЎ імкнуліся без запрашэньня патрапіць у прыватную кватэру па пр.Міру ў абласным цэнтры. Па меркаваньні "гасьцей" менавіта гэтую кватэру вядомы дэмакрат Валер Сівуха выкарыстоўвае ў "палітычных мэтах". Аднак перaканацца ў тым ім не давялося, бо іх папросту не пусьцілі ў хату. Нагадаем (міліцыянты хай гэта не чытаюць), што ў Гомлі такіх сама гасьцей гэта не спыніла і яны ўзламалі дзьверы. У нас пакуль абыйшлося...

**У той жа дзень** прыватную машыну, у якой пасажырам быў сябра абласнога выбарчага штабу адзінага кандыдата Анатоль Фёдараў, міліцыя спыніла на ўезьдзе ў Магілёў. Сэржанты мелі яўны намер абшукаць машыну. Але пакуль яны шпынялі пытаньнямі А.Фёдарава, шукаючы нагоду для прэтэнзіяў да аўтамабілю, кіроўца спакойна паехаў далей. У салёне сапраўды былі некаторыя абвестачныя выбарчыя дакумэнты. Цалкам законныя, зазначым.

**Нарэшце ўчора ноччу** ў Менску была "арыштаваная" прыватная друкарня "Мэджык", у якой выдаецца практычна ўся недзяржаўная сталічная прэса. Адначасовыя прэтэнзіі да друкарні выставілі фінансовыя органы, падатковая інспэкцыя і іншыя ня менш строгія інстанцыі. Наклады газэтаў, якія рэдакцыі, пошта і Белсаюздрук не пасьпелі да часу арышту вывезьці, таксама патрапілі пад замок і пакуль, на сёньняшнюю раніцу, ня вызваленыя.

*Па паведамленьнях нашых карэспандэнтаў*

# Нарэшце распачалі

Днямі місія Бюро дэмакратычных інстытуцыяў і правоў чалавека АБСЭ распачала назіраньне за перадвыбарчай кампаніяй у Беларусі.

Пакуль што прыбылі 15 экспэртаў з 29-ці з розных краінаў. Яны ўжо атрымалі акрэдытацыйныя пасьведчаньні міжнародных назіральнікаў Цэнтарвыбаркаму Беларусі й адкрылі некалькі сваіх офісаў. Супрацоўнік місіі Марэк Мрачка, які адказвае за кантакты з прэсай, паведаміў, што цяпер місія мае вельмі шмат арганізацыйнай працы. Галоўны офіс місіі разьмесьціўся ў Менску ў Міжнародным адукацыйным цэнтры на праспэкце газэты "Праўда".

Акрамя БДІПЧ АБСЭ доўгатэрміновае назіраньне за прэзыдэнцкай выбарчай кампаніяй наладжвае і Асацыяцыя арганізатараў выбараў краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы. Гэтую арганізацыю ўжо цяпер прадстаўляюць тры экспэрты – з Вугоршчыны, Расеі і Ўкраіны. Усяго ж больш за 220 міжнародных назіральнікаў ужо пацьвердзілі сваю гатовасьць прысутнічаць у Беларусі падчас выбараў. Яны прадстаўляюць многія краіны як Захаду, так і Ўсходу, але найбольш прадстаўнічая дэлегацыя будзе з Расейскай Фэдэрацыі.

Акрамя таго, непасрэдна на выбары прыедуць яшчэ каля 150 назіральнікаў ад АБСЭ. Як патлумачыў кіраўнік місіі Граер Бальян, ахвотных назіраць за беларускімі выбарамі выявілася болей, чым чакалі.

*Валер КАЛІНОЎСКІ*


Фота IREX

# ...Без залішніх словаў

У мінулую нядзелю ў Менску прайшоў V Кангрэс дэмакратычных сілаў. Старшыня аргкамітэту прафэсар Юры Хадыка адзначыў, што "да перамогі можна прыйсьці толькі аб'яднаўшыся, а раз'яднаньне – гэта шлях да паразы".

Кандыдат на прэзыдэнта Ў.Ганчарык, у прыватнасьці, сказаў, што рэакцыя Міністэрства юстыцыі, якое аб'явіла пагадненьне кандыдатаў у прэзыдэнты і шырокай грамадзянскай кааліцыі незаконным, вызывае толькі сьмех. Ён паведаміў, што пад Слонімам прайшлі спэцыяльныя вучэньні, у якіх узялі ўдзел спэцпадразьдзяленьні МУС і КГБ. Яны сумесна адпрацоўвалі тактыку разгона дэманстрантаў. "Дык з кім жа хоча ваяваць прэзыдэнт Лукашэнка: зь беларускім народам?" – рытарычна запытаўся Ў.Ганчарык.

Паколькі 17 жніўня ЦВК адмовіла кандыдатам у простым тэлеэфіры, У.Ганчарык публічна прапанаваў А.Лукашэнку прыняць ўдзел у тэледэбатах аб эканамічным і палітычным становішчы ў краіне.

Кіраўнікі асноўных палітычных партыяў і грамадзкіх рухаў без залішніх словаў падтрымалі вылучэньне Ў.Ганчарыка адзіным кандыдатам ад шырокай грамадзкай кааліцыі.

*Паводле БЕЛАПАН*




# Любімы занятак – падвесіць...

***Міністэрства юстыцыі РБ прыняла заяву, у якой адрэагавала на пагадненьне паміж двума кандыдатамі на пасаду прэзыдэнта Ў.Ганчарыкам і С.Домашам.***

У заяве павучальна нагадваецца, што паводле дзеючай Канстытуцыі толькі кіраўнік дзяржавы можа прызначаць рэфэрэндумы, распускаць палаты парлямэнту, вызначаць структуру ўраду. Такім чынам, мяркуе Мінюст, кандыдаты ў прэзыдэнты, якія яшчэ да выбараў абмяркоўваюць зьмену дзяржаўнага ладу, парушаюць Асноўны закон.

Зусім камічным выглядае папрок міністэрства кандыдатам за адмоўную ацэнку дзейнасьці парлямэнту. На падобную ацэнку ніякіх юрыдычных дазволаў не патрэбна. Чыноўнікі таксама прыйшлі да высновы, што пункты пагадненьня пра рэфармаваньне палітычнай сыстэмы "юрыдычна нікчэмныя". Гэта азначае, што калі сп.Ганчарык, стаўшы прэзыдэнтам, адмовіцца праводзіць пагадненьне ў жыцьцё, то сп.Домаш ня зможа пацягнуць новага прэзыдэнта ў суд і прымусіць яго выконваць пункты пагадненьня. Гэта сапраўды так, але з чаго тут непакоіцца незацікаўленым асобам?

Усё ж у згаданай заяве ёсьць даволі злавесная лёгіка, накіраваная на ўтрыманьне сёньняшняга рэжыму пры ўладзе любым коштам. Варта заўважыць, што міністэрства абвінавачвае ў закліках да парушэньня Канстытуцыі менавіта двух кандыдатаў у прэзыдэнты. Але калі такія заклікі там ёсьць, то ў іх вінаватыя ўсе асобы – некалькі дзясяткаў – што падпісалі гэты дакумэнт. Такім чынам, мэта Мінюсту – падвесіць кандыдатаў на кручок, закласьці магчымасьць ануляваньня іхняй рэгістрацыі.

*Паводле радыё "Свабода"*




БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА
РАДЫЁ СВАБОДА

З 6 жніўня наш штодзённы эфір
павялічыўся з 4 гадзінаў да 8.
Слухайце нас 6 гадзінаў увечары (18:00-24:00) і 2 гадзіны раніцай (6:00-8:00).
Новыя хвалі. Менскі час.

**18:00-24:00:** 7295 кгц (41м), 11725 кгц (25м), 15480 кгц (19м), 7190 кгц (41м), 11730 кгц (25м), 15565 кгц (19м), 9530 кгц (31м), 9750 кгц (31м), 11865 кгц (25м).

**6:00-8:00:** 6170 кгц (49м), 7295 кгц (41м), 9635 кгц (31м).

Сталая частата на сярэдніх хвалях: 612 кгц.

**У праграме:**

...навіны зь Беларусі і ўсяго сьвету, правы чалавека, апазыцыя, улада, родная мова, эканоміка, мэдыцына, культура, гісторыя, эміграцыя...

**Спэцыяльныя перадачы:**

...Праскі акцэнт, Вострая Брама, Чытальная Заля, Блізкая Эўропа, Неабжытая Спадчына, Сымбаль Веры, Беларускія раздарожжы, Адукацыя за мяжою, Новае пакаленьне выбірае, Беларускі інтэрнэт...

ІНТЭРНЭТ: http://www.svaboda.org
Паштовы адрас: 220005, Менск-5, п/с 111
Vinohradska 1, 11000 Praha 1, CZ

**НАСТРОЙЦЕСЯ НА СВАБОДУ!**

# Бяз тэрміну даўніны...

**Гэтае тэлефанічнае інтэрвію Васіль Лявонаў даў чытачам гарадзенскай "Пагоні". На жаль, мы ня маем тэхнічнай магчымасьці зрабіць тое ж самае ў нас. Аднак, прадчуваючы, што збольшага гэта былі б тыя ж пытаньні, мы па-сяброўску запазычылі ў калегаў стэнаграму "Прамой лініі" з чалавекам, якога ў нашай вобласьці ведаюць найлепш чым дзе. У пададзенай ніжэй публікацыі для зручнасьці чытаньня пытаньні выдзеленыя сьветлым курсівам, а адказы – чорным.**

*– Спадар Лявонаў, за каго Вы агітуеце галасаваць: за другога камуніста? Дзе гарантыі, што ён ня здасьць Беларусь?*

***–Якога камуніста Вы маеце на ўвазе: Домаша ці Ганчарыка? Усе мы былі камуністамі.***

*– Ганчарыка! Камуністам мы ня верым, мы верым толькі аднаму Зянону Пазьняку.*

***– Я быў бы ня супраць, калі б ён змог прайсьці этап збору подпісаў. Я б таксама за яго галасаваў. Я паважаю Зянона Пазьняка. І буду вітаць, калі ён вернецца. Больш таго, я гатовы яшчэ пры жыцьці за свае грошы паставіць помнік Зянону Станіслававічу.***

*– Чаму адзіным кандыдатам вылучылі ня Домаша, а Ганчарыка? Прэса піша, што Вы адыгралі ў гэтым вялікую ролю.*

***– Вылучэньне Ганчарыка – гэта рашэньне "пяцёркі". У тым ліку і Сямён Домаш падпісаў гэтае рашэньне. Там ніхто, акрамя іх, не прысутнічаў, і ім не перашкаджаў. А плётка пра маю "вялікую ролю" выгодная кагэбэшнікам.***

*– Ганчарык яшчэ ня выказаўся канкрэтна адносна вяртаньня бел-чырвона-белага сьцягу і "Пагоні".*

***– Вас магу запэўніць: усё, што служыць на карысьць Беларусі, будзе выкананае Ганчарыкам. Таксама, як і Сямёнам Домашам.***

*– Ці не падаецца Вам, што Вы таксама прыклалі руку да "зьяўленьня" Лукашэнкі, калі былі кіраўніком Магілёўскага абкаму кампартыі?*

***– Не. Больш таго, калі Лукашэнка вёў барацьбу за пост дэпутата Вярхоўнага Савета СССР апошняга скліканьня, ён прайграў толькі з-за мяне. А калі ён змагаўся за пасаду прэзыдэнта, я ў гэтым удзелу ня браў. Калі мяне ўжо паставілі міністрам, я даў інтэрвію, дзе падкрэсьліў, што я ў барацьбе за ўладу Лукашэнкі ня ўдзельнічаў. І ў рэфэрэндуме ўдзелу ня браў.***

*– Усе ўпэўненыя, што Лукашэнка выбары сфальсыфікуе. На Вашую думку, ці можна арганізаваць на Беларусі пасьля выбараў Вызвольны Рух?*

***– Я ведаю па чутках, што розныя сілы гэта задумваюць, але лічу такое разьвіцьцё падзеяў няправільным. Я ўпэўнены, што Лукашэнка будзе адхілены ад улады, нават калі ён і сфальсыфікуе выбары, звычайнымі мэтадамі, без вайны і крыві. У самым горшым выпадку гэта адбудзецца ў пачатку наступнага году. Я супраць таго, каб мы ваявалі.***

*– У многіх настрой: галасаваць супраць усіх.*

***– Гэта няправільна. Супраць усіх – гэта за Лукашэнку.***

*– Якія сілы мы можам змабілізаваць для перамогі на выбарах?*

***– Усе сьвядомыя людзі – вось нашая сіла. Гэта тыя, хто ня хоча быць быдлам, якое робіць рэжым з нашых людзей. А канкрэтна, гэта ўсе партыі, акрамя ЛДПБ Гайдукевіча, і штабы ўсіх кандыдатаў. Гайдукевіч – гэта падстава ўлады.***

*– Ці ня станецца так, што Ганчарык будзе праводзіць палітыку Кебіча і Лукашэнкі па далейшым аб'яднаньні з Расеяй, па ўвядзеньні рублёвай зоны?*

***– Я ўпэўнены: гэтага не адбудзецца. Ганчарык – ня Кебіч. Я добра ведаю абодвух, таму магу параўноўваць.***

*– Ці ёсьць нейкая праграма па выхаду Беларусі з крызысу, разьвіцьця сельскай гаспадаркі, эканомікі?*

***– Ёсьць. Праграма беларуская, яна адпрацаваная і навукоўцамі, і практыкамі. Больш таго, ёсьць людзі для выкананьня гэтай праграмы.***

*– Ці веруючы Вы чалавек?*

***– Так, я праваслаўны. Апошні раз я хадзіў у царкву два тыдні таму ў Маскве.***

*– Калі Вы сядзелі ў турме, якая была верагоднасьць таго, што з Вамі могуць расправіцца?*

***–Мне пашчасьціла. Начальнікі турмы ня ставілі такой задачы. Каб захацелі – у нас усё вельмі проста робіцца. Там гэта нічога не каштуе. Сярод турэмшчыкаў, дарэчы, таксама ёсьць людзі.***

*– Вы – за інтэграцыю з Расеяй?*

***– Я – за сяброўства з Расеяй і самастойнасьць Беларусі. За сяброўства з усімі суседзямі, але за нашую незалежнасьць.***

*– Як Вы ставіцеся да беларускай мовы і які лёс, на Вашую думку, яе чакае ў будучым?*

***– Скажу Вам адзінае: усе мае ўнукі добра ведаюць беларускую мову, нароўні з ангельскай.***

*– Якое Вашае стаўленьне да тэлепраграмаў "Рэзананс" і "Разговор по существу?"*

***– Я стаўлюся да аўтараў гэтых праграмаў ня толькі, як да вялікіх ілгуноў, але як да злачынцаў. Гэта ня проста халуі, якія гнуцца, але халуі, якія самі робяць злачынствы. Аднак прапагандысцкі вынік у іх атрымоўваецца з дакладнасьцю наадварот.***

*– У выпадку перамогі Ганчарыка кім Вы бачыце сябе ва ўладнай герархіі?*

***– Нікім. Ні ў якую ўладу я не пайду. Я пра гэта заявіў, сказаў і напісаў.***

*– Вы – за калгасную сыстэму?*

***– Я быў калгасьнікам, вырас у калгасе – і люта ненавіджу з тых гадоў калгасы. Калгас – гэта прыгон, замешаны на трацкісцкіх працоўных арміях. Калі я быў міністрам, я насуперак Лукашэнку 300 калгасаў рэфармаваў. За гэта і пасядзеў крыху.***

*– Сумняваюся, што нашыя галасы будуць сумленна падлічаныя на выбарах.*

***– Цяпер гэта асноўная задача беларусаў: не дапусьціць усеагульнай хлусьні. Падтасоўка вынікаў – гэта крымінальнае злачынства. І, незалежна ад таго, што гаворыць начальнік, кожны, хто зьдзейсьніць гэтае злачынства, будзе пасьля сядзець у турме. Прычым гэтае злачынства ня будзе мець тэрміну даўніны.***

*– Раскажыце, калі ласка, пра сваю сям'ю.*

***– Я не ўзначаліў бы рух "За новую Беларусь", калі б ня меў падтрымкі ад жонкі, перш за ўсё, а таксама ад сваіх дачок, зяцёў, унукаў. Яны ўсе працуюць на гэты рух. Адныя грошы даюць, другія проста працуюць.***

*– А ў мяне няма пытаньняў. Патэлефанаваў, каб падзякаваць Вам за тое, што Вы ёсьць, за тое, што робіце такую вялікую справу. І хачу пажадаць, каб мы ўсе перамаглі.*

## ПАВЕДАМЛЯЮЦЬ НАШЫ КАРЭСПАНДЭНТЫ

### ...з Глуску



***Група школьнікаў пад кіраўніцтвам Уладзімера Тупіцы правяла 12-дзённы прабег на роварах па маршруце Глуск-Кіраўск-Карповічы-Вільча-Гарохаўка-Глуша-Гарадок-Глуск.***

У вёсках удзельнікі прабегу распаўсюджвалі спэцвыпускі газэтаў "Рабочы" і "Беларуская маладзёжная", а таксама ўлёткі "Ваш голас будзе ўлічаны".

***Ігар КІРЫН***

### ...зь Бялынічаў

***Сталіся вядомымі вынікі мясцовага апытаньня грамадзкай думкі. Валанцёры зь ліку дэмакратычна настроеных жыхароў райцэнтру наведалі 347 кватэраў.***

У 143 зь іх ніхто ня ведаў прозьвішча канчаткова вызначанага адзінага кандыдата на прэзыдэнта ад апазыцыі. За Ганчарыка будуць галасаваць жыхары 82 кватэраў, за іншага кандыдата – 218-ці (як сьведчаць валанцёры, палова гэтых людзей пры ўмове правядзеньня зь імі адпаведнай агітацыйнай працы можа падтрымаць адзінага кандыдата). Жыхары 86-ці кватэраў, дзе ў большасьці жывуць пэнсіянэры, прагаласуюць за Лукашэнку. Апытаньне працягваецца.

***Пасьля пасьпяховага правядзеньня мабілізацыйнага рок-канцэрту, пра які "ТМ" паведамляў у папярэднім нумары, мясцовыя ўлады вельмі занэрваваліся.***

На штотыднёвай плянёрцы ў старшыні райвыканкама Г.Шпакоўскага дасталася на арэхі загадчыцы моладзевага аддзелу Н.Сіманавай і першаму сакратару райкама БПСМ С.Падабеду, якія "выпусьцілі з сваіх рук ініцыятыву па рабоце з моладзьдзю ў такі адказны час". БПСМ апэратыўна выкруціўся, адрапартаваўшы аб намеры правесьці моладзевую акцыю "Я – за бацьку!".

***Інспэктара ДАІ Бялыніцкага РАУС Асмалоўскага злавілі на хабары ў... 5 тысячаў беларускіх рублёў.***

Выкрылі даішніка яго ж калегі са спэцпадразьдзяленьня "Страла". Яны наўмысна, замаскіраваўшыся пад "новых беларусаў", на "крутым" аўто парушылі правілы дарожнага руху. Калі ж парушальнікі прапанавалі адкупіцца ад складаньня пратаколу пяцьцю тысячамі, інспэктар пагадзіўся.

***За ліпень у калгасе імя Чкалава памерлі 22 цялушкі 7-8-мі месячнага ўзросту. Палову зь іх выцягнулі ў хмызьнякі, астатніх пасьпелі прырэзаць.***

Яшчэ ў красавіку падобны зыход прадбачыў галоўны вэтэрынарны доктар гаспадаркі Валер Вусік, бо на руках меў вынікі аналізу крыві цялят. А тыя былі вельмі нядобрымі: караціну ўтрымлівалася ў іхнай крыві ажно ў 10 разоў менш за норму. Але ў калгасе на патрабаваньні доктара тады махнулі рукой, спадзеючыся, што жывёла акрыяе на траве.

Паводле словаў спадара Вусіка, масавую гібель жывёлы хацелі сьпісаць на ягоны ж вэтэрынарны недагляд. Аднак выкліканыя ім спэцыялісты з абласнога камітэту сельскай гаспадаркі засьведчылі ягоную праваату.

***Наркаманія ў раёне пачынае набываць масавы характар, аб чым яскрава сьведчыць статыстыка.***



Толькі з пачатку года да адміністрацыйнай адказнасьці за парушэньне антынаркатычнага заканадаўства прыцягнутыя 53 чалавекі. У адносінах да трох асобаў узбуджаныя крымінальныя справы, а двое ўжо прыцягнутыя да крымінальнай адказнасьці.

Відавочны нулявы эфэкт усіх папярэдніх прафіляктычных мераў. Тым ня менш днямі на паседжаньні райвыканкаму былі зацьверджаныя чарговыя "мерапрыемствы супраць злоўжываньня", што раней былі адобраныя адпаведнай пастановай "наверсе".

***Жыхары адной са старэйшых вёсак раёну – Эсьмонаў – зьвярнуліся ў райвыканкам з просьбай зарэгістраваць іхны царкоўны прыход.***

На сваім сходзе, што папярднічаў звароту, яны вырашылі пабудаваць Сьвята-Траецкую царкву. Калісь царква з такой назвай была ў вёсцы, але яе зьнішчылі камуністы пасьля вайны. Паўстаў на яе месцы, зразумела, вясковы клюб. Вяскоўцы маюць намер пабудаваць царкву да 2004 году, калі споўніцца 200 год паўстаньню ў Эсьмонах, якія тады мелі статус мястэчка, праваслаўнай бажніцы.

***Базыль ЛІЦЬВІНОВІЧ***

### ...з Клімавічаў



***Ёмістую фразу "мыцца будзеце ў фантане!" нядобразычліўцы прыпісваюць старшыні мясцовага райвыканкаму Ў.Канавалаву.***

Рэч у тым, што ў цэнтры горада пачаліся працы па будаўніцтву фантану, а вось адзіная гарадзкая грамадзкая лазьня вельмі часта зачыняецца на рамонт (зачыненая яна й зараз). Зразумела, што мясцовых жыхароў падобнае становішча не задавальняе, тым больш што спэцыялістаў дзеля пабудовы фантану ўлады выпісалі здалёк. Сваё незадавальненьне клімаўцы выказваюць, лаючыся міжсобку (каб начальства ня чула).

***Андрэй КУЗЬМІН***

### ...з Горак

***Насосная станцыя мясцовай каналізацыі ня ў стане фільтраваць горацкае "дабро".***

Таму "яно" павольна цячэ ў бліжэйшую рачулку. Што зробіш: горад расьце.

***Каля нядаўна збудаванага жылога дому месьціліся некалькі сотняў дрэннага выгляду сарайчыкаў.***

Гэтае суседзтва, асабліва – водар навокал, не спадабалася навасёлам. І вось на працягу лета драўляныя пабудовы гарэлі ўжо пяць разоў. Аднак толькі калі ў агні паджогаў пачалі гінуць сьвіньні ды козы выкладчыкаў сельгасакадэміі, улады заўважылі праблему.

***Акцыя "Ланцуг неабыякавых людзей" была праведзеная на прыступках мясцовага Дому саветаў.***

Толькі пятнаццаць хвілін дазволілі сябе чакаць працаўнікі Горацкага РАУС. Разам з двума ўдзельнікамі пікету – мясцовымі "зубрамі" – у варанок "запрасілі" і карэспандэнта незалежнага выданьня "Рэгіянальныя ведамасьці", але адразу пасьля прыезду ў пастарунак адпусьцілі.

***Напярэдадні выбараў некаторыя супрацоўнікі выканкаму перайшлі працаваць на менш адказныя пасады.***

Сапраўды, калі пераможа Сёньняшні, заўжды можна будзе "выплыць на паверхню". Калі ж не атрымаецца ў яго – можна будзе стаць "ахвярай рэжыму".



***Днямі адбыліся некалькі цікавых культуровых мерапрыемстваў для дзяцей.***

У дзіцячым лягеры "Купалінка" прайшлі рокавы і фальклёрны канцэрты з удзелам навучэнцаў дзіцячай школы мастацтваў. Пазьней адбылася беларускамоўная дыскатэка, якую, на жаль, не ўпадабала адміністрацыя, таму яна прадоўжылася па-за тэрыторыяй лягеру.

### ...з Мсьціславу



***Будаўнікі з ўсёй краіны рыхтуюць горад да Дня беларускай пісьменнасьці 2 верасьня.***

Працуюць рабочыя нават уначы. Пакуль з абяцаных трох з паловай мільярдаў рублёў на падрыхтоўку сьвята выдзелена толькі 180 мільёнаў.

***Віталь ДРАНІК***

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

### УЛАДЗІМЕР ГАНЧАРЫК ПРАЦЯГВАЕ НАСТОЙВАЦЬ НА ПРАВЯДЗЕНЬНІ ТЭЛЕДЭБАТАЎ З ЛУКАШЭНКАМ

Нагадаем, што выступаючы 18 жніўня на Кангрэсе дэмакратычных сілаў у Менску, Ганчарык выклікаў Лукашэнку на тэледэбаты ў простым эфіры. На сустрэчы з журналістамі 22 жніўня ў Фэдэрацыі прафсаюзаў Уладзімер Ганчарык паведаміў, што пакуль ніякага адказу не атрымаў. Аднак у сваім учарашнім выступе на БТ адзіны кандыдат сэканоміў 9 хвілінаў эфірнага часу для будучых тэледэбатаў. Паводле ягоных слоўва, калі два астатнія кандыдаты ў прэзыдэнты – Лукашэнка і Гайдукевіч – падтрымаюць гэтую ініцыятыву, то й якраз набярэцца час для правядзеньня паўнавартаснай тэлевізійнай дыскусіі. Да таго ж, як адзначыў Ганчарык, пасьля зьняцьця Сямёнам Домашам свайёй кандыдатуры вызваляецца яшчэ паўгадзіны эфірнага часу.

●

### НАПАЧАТКУ ВЕРАСЬНЯ ПРЫХІЛЬНІКІ Ў.ГАНЧАРЫКА МАЮЦЬ НАМЕР ПРАВЕСЬЦІ ШЭРАГ АКЦЫЯЎ У ПАДТРЫМКУ АДЗІНАГА КАНДЫДАТА

2-га верасьня на адным зь менскіх стадыёнаў плянуецца правесьці "шырокамаштабную" сустрэчу з адзіным кандыдатам ад шырокай грамадзянскай кааліцыі. Пра гэта на сустрэчы з журналістамі паведаміў Сямён Домаш. Гэтае рашэньне прынятае на першым паседжаньні Палітычнага савета штабу адзінага кандыдата, які Домаш узначальвае. Ён таксама паведаміў, што 3-га верасьня аналягічныя акцыі, толькі ўжо з удзелам давераных асобаў Ганчарыка, плянуецца правесьці ў 25-ці буйных гарадах краіны. Асноўнай мэтай гэтай кампаніі стане прадстаўленьне выбаршчыкам адзінага кандыдата, а таксама данясеньне да іх ягонай пазыцыі адносна "датэрміновага галасаваньня". Паводле словаў Домаша, арганізатары акцыяў спадзяюцца прыцягнуць людзей для разгортваньня прапаганды супраць удзелу выбаршчыкаў у такім галасаваньні. Чым менш грамадзянаў возьмуць удзел у датэрміновым галасаваньні, тым менш застанецца ўладных магчымасьцяў для фальсыфікацыі выбараў, – лічаць у штабе адзінага кандыдата.

●

### КАНСУЛЬТАТЫЎНАЯ РАДА АПАЗЫЦЫЙНЫХ ПАЛІТЫЧНЫХ ПАРТЫЯЎ АБВІНАВАЧВАЕ ЎЛАДЫ Ў ПАРУШЭНЬНІ ВЫБАРЧАГА ЗАКАНАДАЎСТВА

Кансультатыўная рада апазыцыйных палітычных партыяў прыняла адмысловую заяву, у якой афіцыйныя беларускія ўлады абвінавачваюцца ў парушэньні выбарчага заканадаўства. У дакумэнце гучаць абвінавачваньні на адрас Цэнтарвыбаркаму, які, "ідучы на прамое парушэньне артыкулу 45 Выбарчага кодэксу, прыняў пастанову, якая абавязвае кандыдатаў у прэзыдэнты праводзіць сходы, мітынгі й іншыя масавыя мерапрыемствы ў адпаведнасьці з законам "Аб сходах, мітынгах, вулічных шэсьцях, дэманстрацыях і пікетаваньні". Гэта азначае, што кандыдатам у прэзыдэнты на правядзеньне сустрэчаў з выбаршчыкамі застаецца ўсяго 5 дзён, што не дае магчымасьці весьці паўнавартасную выбарчую кампанію. (Рэч у тым, што заяўка на мерапрыемства згодна з вышэйназваным законам павінна падавацца не пазьней як за два тыдні.) Што да дзяржаўных СМІ, то яны, на думку аўтараў заявы, працягваюць кампанію паклёпу і хлусьні, накіраваную супраць апанэнтаў Лукашэнкі і на ўсхваленьне яго асобы. "На фоне гэтых ды іншых парушэньняў, – гаворыцца ў заяве Рады, – натуральнымі і лягічнымі зьяўляюцца дзеяньні ўладаў па зрыву прыезду ў краіну міжнародных назіральнікаў ад АБСЭ. Імкнучыся не дапусьціць незалежнага назіраньня сіламі ўнутраных назіральнікаў, улады правялі канфіскацыю абсталяваньня ў тых грамадзкіх арганізацыяў, якія бяруць удзел у арганізацыі сыстэмы незалежнага грамадзкага назіраньня за прэзыдэнцкімі выбарамі". Рада лічыць, што гэтыя й іншыя дзеяньні выканаўчай улады "даюць падставу заявіць, што рэжым баіцца правядзеньня свабодных і дэмакратычных выбараў".



Беларускія вайсковыя вучэньні "Нёман-2001". Баявая машына рухаецца да месца дыслякацыі па шашы Менск-Берасьце... Далей – Эўропа. *Фота IREX*

●

### БЫЛЫ НАЧАЛЬНІК СІЗА-1 АЛЕГ АЛКАЕЎ СЬВЕДЧЫЦЬ АБ ДАЧЫНЕНЬНІ СОБРа ДА ВЫКРАДАНЬНЯ ВЯДОМЫХ ЛЮДЗЕЙ

Палкоўнік унутранай службы Алег Алкаеў паведаміў гэта праз інтэрвію "Белорусской деловой газете", апублікаваным у нумары за 22 жніўня. Афіцэр Міністэрства ўнутраных справаў, які цяпер знаходзіцца ў Нямеччыне, пацьвярджае сапраўднасьць нядаўна агучаных Уладзімерам Ганчарыкам пратаколаў допытаў і рапартаў, якія сьведчаць, што "расстрэльны" пісталет са сталічнага СІЗА па распараджэньні тагачаснага міністра ўнутраных справаў Юрыя Сівакова выдаваўся менавіта ў тыя дні, калі ў краіне зьнікалі вядомыя людзі. Афіцэр МУС пацьвярджае, што рапарт на імя міністра ўнутраных справаў Навумава напісаны яго рукой, а "пратакол допыту, натуральна, сьледчы друкаваў, але з маіх словаў, таму я й падпісаўся пад кожнай старонкай". Паводле Алкаева, "самі дакумэнты, мяркуючы па ўсім, зьнішчаныя. Але копіі зьнятыя з сапраўдных дакумэнтаў". Пры гэтым палкоўнік зьдзіўлены тым, што "людзі, якія сьцьвярджаюць, нібыта я ўзьвёў на іх паклёп, не зьвяртаюцца ў суд" (гаворка ідзе пра цяперашняга генэральнага пракурора Віктара Шэймана і намесьніка кіраўніка прэзыдэнцкай Адміністрацыі Юрыя Сівакова, чые імёны ўзгадваюцца ў сувязі з выкраданьнем вядомых людзей. Закрануўшы наведваньне камандзірам СОБРа Дзьмітрыем Паўлючэнкам працэдуры выкананьня сьмяротнага прысуду, Алкаеў заўважае, што гэта сталася магчымым з дазволу "майго непасрэднага начальніка Сяргея Кадушкіна", які ў сваю чаргу атрымаў такі загад ад міністра Сівакова. Паводле палкоўніка Алкаева, "ня менш чым 20 чалавек ведаюць аб абставінах прыходу ў сьледчы ізалятар Паўлючэнкі й выдачы яму пісталета па запатрабаваньні міністра Сівакова". Прычым "абсалютна ўсе супрацоўнікі, з кім мне даводзілася гутарыць, упэўненыя, што выкраданьні людзей і, хутчэй за ўсё, іх забойствы арганізаваныя групаю СОБР".

●

### ФІНАНСОВАЯ МІЛІЦЫЯ СКАНФІСКАВАЛА НЕКАЛЬКІ КАМПУТАРАЎ У РЭДАКЦЫІ ГАЗЭТЫ "НАРОДНАЯ ВОЛЯ"

Фінансовая міліцыя праводзіць праверку і канфіскуе аргтэхніку ў шэрагу незалежных газэтаў. Увечары 21 жніўня больш за 10 супрацоўнікаў міжраённага аддзела Заводзкага раёну Менску ўпраўленьня Дзяржаўнага камітэта фінансавых расьсьледаваньняў правялі праверку ў рэдакцыі "Народнай Волі" й канфіскавалі некалькі кампутараў, на якія "належным чынам не былі афармленыя дакумэнты". Дакладную колькасьць канфіскаванай тэхнікі галоўны рэдактар "Народнай Волі" Іосіф Сярэдзіч назваць адмовіўся, хаця і адверг чуткі аб канфіскацыі ў рэдакцыі 15-ці кампутараў, адзначыўшы толькі, што іх у два разы менш. Аднак, паводле ягоных словаў, дзейнічала фінансовая міліцыя паводле закону. Было вывезенае тое абсталяваньне, на якое не было адпаведных дакумэнтаў. Ён заявіў: "частка абсталяваньня ў нас стаяла на балансе, другая частка была перададзеная ў рэдакцыю прыватнымі асобамі. Напрыклад, я сам калісь прыватным чынам набыў кампутар і перадаў яго ў прыёмную рэдакцыі. Аднак пры набыцьці апарату я не зрабіў неабходнага юрыдычнага дзеяньня. У сувязі з гэтым у праваахоўцаў узьнікла пытаньне – а раптам гэта выкрадзены кампутар, а не набыты законна". Яшчэ І.Сярэдзіч дадаў, што газэта будзе выходзіць, нават калі ў яе забяруць усю тэхніку.

●

### КОЖНЫ ДРУГІ МЯНЧУК НЕ ДАВЯРАЕ ГАЙДУКЕВІЧУ І ЛУКАШЭНКУ ЯК КАНДЫДАТАМ У ПРЭЗЫДЭНТЫ БЕЛАРУСІ

Кожны другі з 500 апытаных сацыёлягамі менчукоў (гэта па 51%) "не давярае поўнасьцю" С.Гайдукевічу і А.Лукашэнку. А 45 і 43 адсотка адпаведна не давяраюць Уладзімеру Ганчарыку і Сямёну Домашу. Такія зьвесткі атрымалі супрацоўнікі сацыялягічнай службы "Зеркало". Гайдукевічу, згодна апытаньня, "поўнасьцю давяраюць" 5 адсоткаў, а "часткова" – 18 адсоткаў рэспандэнтаў. Ганчарык карыстаецца "поўным даверам" у кожнага 10-га жыхара сталіцы, а "частковым даверам" – у кожнага 4-га. Лукашэнка карыстаецца "поўным даверам" у 16-ці адсоткаў апытаных, а ў 22 адсоткаў – "частковым". Астатнія апытаньня не змаглі вызначыць меру свайго даверу да кандыдатаў на прэзыдэнта краіны.

●

### УЛАДЫ ПРЫЦЯГВАЮЦЬ ДА ВЫБАРЧАЙ КАМПАНІІ СПЭЦСЛУЖБЫ, ЗАЯВІЛА КІРАЎНІК БЕЛАРУСКАГА ХЕЛЬСІНСКАГА КАМІТЭТУ Т.ПРОЦЬКА

На сёньняшні дзень "у выбарчым працэсе ў той ці іншай ступені пачынаюць удзельнічаць спэцслужбы". Пра гэта заявіла на сустрэчы з журналістамі кіраўнік БХК Таццяна Процька. Прычым, адзначыла яна, такога не было нават на парлямэнцкіх выбарах у палату. У прыватнасьці, як паведаміла Процька, пры мясцовых выканкамах створаныя спэцыяльныя выбарчыя штабы, у якія, паводле інфармацыі БХК, уваходзяць начальнік міліцыі й мясцовы ўпаўнаважаны КГБ. Акрамя таго, паводле словаў Процькі, у Бабруйску назіральніку ад БХК было па ўказаньні КГБ незаконна адмоўлена ў праве прысутнічаць пры фармаваньні тэрытарыяльнай выбарчай камісіі, а ў Гомлі супрацоўнікі КГБ узялі ўдзел у разгроме рэгіянальнай арганізацыі "Грамадзянскія ініцыятывы". "Гэта парушае закон "Аб Камітэце дзяржаўнай бясьпекі", а таксама парушае дзеючыя нормы Канстытуцыі і заканадаўства. Гэта вельмі небясьпечная тэндэнцыя", – падкрэсьліла Т.Процька.

●

### СЁНЬНЯ Ў МЕНСК ПРЫБЫВАЕ МІСІЯ НАЗІРАНЬНЯ АД АСАЦЫЯЦЫІ АРГАНІЗАТАРАЎ ВЫБАРАЎ КРАІНАЎ ЦЭНТРАЛЬНАЙ І ЎСХОДНЯЙ ЭЎРОПЫ

Гэтая асацыяцыя зь ліпеня ажыцьцяўляе доўгатэрміновае назіраньне за прэзыдэнцкімі выбарамі. Як паведаміў прэс-сакратар Цэнтарвыбаркаму РБ Валеры Юрэвіч, у складзе дэлегацыі будуць два прадстаўнікі Цэнтарвыбаркаму Расеі – Яўген Калюшын і Аляксандар Петухоў, а таксама сябра Цэнтарвыбаркаму Украіны Аляксандар Гашыцкі. Паводле Юрэвіча, ЦВК рыхтуе сустрэчы гасьцей толькі з афіцыйнымі асобамі. У прыватнасьці, сустрэчы з кіраўніком Цэнтарвыбаркама Ярмошынай, прадстаўнікамі прэзыдэнцкай адміністрацыі, пракуратуры і Міністэрства фінансаў. Акрамя таго, плянуецца выезд прадстаўнікоў асацыяцыі ў некаторыя выбарчыя камісіі Менску і вобласьці. Сустрэчы зь няўрадавымі структурамі рыхтуюць самі прадстаўнікі Асацыяцыі арганізатараў выбараў, якія знаходзяцца ў Менску – Іштван Кёсэгі і Ігар Яўланаў. Апошні паведаміў, што прадстаўнікі назіральнай місіі маюць намер 25 жніўня сустрэцца з кандыдатамі ў прэзыдэнты Уладзімерам Ганчарыкам і Сяргеем Гайдукевічам і прадстаўнікамі шэрагу няўрадавых арганізацыяў, якія займаюцца назіраньнем за выбарамі. Сярод іх – БХК і праваабарончы цэнтар "Вясна". Асобная гутарка павінна будзе адбыцца з каардынатарам унутранага назіраньня ў Беларусі Мячыславам Грыбам.

●

### МІЖНАРОДНАЯ АСАЦЫЯЦЫЯ АБАРОНЫ ПРАВОЎ ЧАЛАВЕКА ЗАКЛІКАЛА СЯБРАЎ ВЫБАРЧЫХ КАМІСІЯЎ З АДКАЗНАСЬЦЮ ПАСТАВІЦЦА ДА СВАІХ АБАВЯЗКАЎ

Гэтая арганізацыя зьвярнула ўвагу на тое, што сябры выбаркамаў не павінны "паддавацца ўціску, а павінны быць аб'ектыўнымі і паведамляць назіральнікам за выбарамі аб фактах фальсыфікацыі вынікаў галасаваньня". Пра гэта гаворыцца ў распаўсюджаным у Менску звароце Асацыяцыі да грамадзянаў Беларусі, кандыдатаў на прэзыдэнта і сябраў выбарчых камісіяў. На думку аўтараў дакумэнту, Беларусь знаходзіцца напярэдадні падзеі, вынікі якой альбо накіруюць разьвіцьцё грамадзтва па цывілізаваным шляху, альбо пакінуць яго "на задворках цывілізаванага сьвету". У сувязі з гэтым Асацыяцыя зьвяртае ўвагу кандыдатаў на неабходнасьць стварэньня ўмоваў для пабудовы "цывілізаванага грамадзтва і прававо дзяржавы". На думку сябраў Асацыяцыі, кожны грамадзянін, чые канстытуцыйныя правы парушаныя, павінен мець права і магчымасьць зьвярнуцца ў спэцыяльны суд, прызначаны для разгляду скаргаў на неправамерныя дзеяньні дзяржаўных органаў і службовых асобаў, уключаючы прэзыдэнта. А чыноўнік, які па рашэньні суду будзе прызнаны вінаватым у наўмысным парушэньні Канстытуцыі, павінен пазбаўляцца права займаць адказныя пасады пажыцьцёва. Гарантам правоў чалавека, адзначаюць аўтары дакумэнту, павінен быць не прэзыдэнт, а – суд.

**БЕЛАПАН для «ТМ»**

# Ці пачуюць гэтым разам

***Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі – БНФ Зянон Пазьняк заклікаў выбаршчыкаў 9 верасьня галасаваць супраць усіх кандыдатаў.***

Ён падкрэсьліў, што ўсе чатыры асобы, зарэгістраваныя кандыдатамі на прэзыдэнцкую пасаду – Сяргей Гайдукевич, Уладзімер Ганчарык, Сямён Домаш і Аляксандар Лукашэнка маюць прамаскоўскую арыентацыю: "Усе яны гатовыя падтрымваць у Беларусі расейскую каляніяльную палітыку. У выпадку выбраньня любога зь іх застанецца існаваць антынародны рэжым, ягоная накіраванасьць на Расею й залежнасьць ад антыбеларускай палітыцы Масквы".

Лідэр нацыянальна-дэмакратычных сілаў заклікае выбаршчыкаў прыйсьці на ўчасткі й выкрэсьліць усіх кандыдатаў – як у першым, так і ў магчымым другім туры выбараў. Калі так зрабіць, дык у верасьні ніхто абраны ня будзе, і павінны будуць адбыцца новыя выбары праз тры месяцы – ужо з новымі кандыдатамі.

На думку З.Пазьняка, такі варыянт меў бы станоўчыя вынікі яшчэ й таму, што Лукашэнка будзе вымушаны ісьці на паўторныя выбары ў кепскім стане, у якасьці асобы, якая прайграла, нягледзячы на неабмежаваную ўладу. А па-другое, паводле лукашэнкаўскай канстытуцыі напрыканцы лістапада скончаецца тэрмін ягоных паўнамоцтваў, і на чале дзяржавы павінен будзе часова стаць старшыня Савету міністраў. Зянон Пазьняк мяркуе, што цягам гэтага часу зарэгістраваліся б новыя кандыдаты, якія прадстаўлялі б ужо не прамаскоўскія, а беларускія інтарэсы.

Старшыня Кансэрватыўна-Хрысьціянскай партыі нагадаў пра выбары 94-га году, калі многія галасавалі за Лукашэнку толькі таму, каб не дапусьціць Кебіча да пасады. Тады З.Пазьняк выступіў з заклікам галасаваць супраць абодвух у другім туры. Цяпер ён заклікае, перш за ўсё грамадзкую эліту і моладзь, не паўтарыць памылкі 94-га года, калі да яго не прыслухаліся.

***Паводле інф. агенцыяў***

## Крок адчаю і апошняй надзеі

У мінулым нумары "ТМ" паведамляў з Бабруйску аб распачатай чатырма жанчынамі галадоўцы пратэсту. Сёньня мы дадаем да той інфармацыі шэраг новых фактаў.

Пра свой намер распачаць галадоўку Яніна Аўсянік, Галіна Гусева, Любоў Санковіч і Эва Сімчук папярэдзілі мясцовыя ўлады аж за 10 дзён. Але гэта ніяк не паўплывала на чыноўнікаў.

Бабруйчанка Яніна Аўсянік мае дзіця-інваліда. Ейны муж, рабочы заводу трактарных агрэгатаў, ужо 15 год чакае атрыманьня кватэры. Яны з жонкай разьлічвалі, што ў гэтым годзе чагосьці дачакаюцца, бо іхняя чарга ужо падыйшла. Але... Яны лічаць, што іх незаконна абыйшлі "блатныя".

Работніца акцыянэрнага таварыства "Фандок" Галіна Гусева, анкалягічна хворая маці чатырох дзяцей, таксама патрабуе асобнага жыльля. Адпрацавала яна на прадпрыемстве 10 год, аднак патрэбнай колькасьці грошай на прыватнае жытло не зарабіла.

Любоў Санковіч, былы галоўны бугалтар заводу трактарных агрэгатаў, патрабуе свайго аднаўленьня на працы. Спадарыня Любоў сьцьвярджае, што заводзкая адміністрацыя мае непасрэднае дачыненьне да "цёмных" справаў на прадпрыемстве: махлярстваў і крадзяжоў.

Эва Сімчук, былы камэндант інтэрнату таго ж заводу, паведаміла, што дачка аднаго з кіраўнікоў гарадзкога Цэнтральнага раёну незаконна атрымала кватэру з заводзкога жыльлёвага фонду. Яна ж сама, маючы 10-гадовы стаж працы, дагэтуль туліцца ў інтэрнаце.

Тым часам мясцовага прадстаўніка БХК, што аказвае дапамогу жанчынам, выклікалі ў гарвыканкам. Там яму чыноўнікі давозілі, што ня трэба баламуціць народ у такі адказны перадвыбарчы час.

***Тацяна КОПЕЦ***

## Знайшлі новы пралаз

20 ліпеня г.г. набыло законную сілу рашэньне Кастрычніцкага раённага суду Магілёва, паводле якога да 10 жніўня 2001г. раённая адміністрацыя была абавязаная зарэгістраваць пярвічныя арганізацыі Свабоднага прафсаюзу магілеўскага аўтазаводу, Адкрытага Акцыянэрнага таварыства "Экран" ды прыватных прадпрымальнікаў абласнога цэнтру.

6 жніўня Свабодны прафсаюз падаў заяву кіраўніку Адміністрацыі Кастрычніцкага раёну Яўгену Лебедзеву з прапановай выканаць судовую пастанову ў адведзены тэрмін. Таксама была пададзеная заява на імя начальніка абласной управы юстыцыі Аляксандра Маймусава з просьбай прасачыць за выкананьнем рашэньня суду.

Аднак пярвічныя арганізацыі зарэгістраваныя не былі. У зьвязку з гэтым Свабодны прафсаюз зьвярнуўся да старшыні суду Кастрычніцкага раёну, каб тая адпаведна адрэагавала на парушэньні. Аднак старшыня заявіла, што ня можа прыняць справу да вытворчасьці, бо яна перададзеная ў абласны суд. Там намесьніца старшыні сп-ня Стальмахова адказала прадстаўнікам Свабоднага прафсаюзу, што адміністрацыя Кастрычніцкага раёну падала на імя старшыні абласнога суду скаргу ***ў парадку нагляду*** з просьбай адмяніць рашэньне раённага суду ды адмовіць Свабоднаму прафсаюзу ў рэгістрацыі пярвічных арганізацыяў. Аднак згодна з Грамадзянска-працэсуальнам кодэксам такую скаргу нельга лічыць абгрунтаванай, бо папярэдне патрабавалася абскарджваньне рашэньня ***ў касацыйным парадку.*** Яго не было. Таму нават сама сп.Стальмахова, намесьніца старшыні аблсуда, была зьдзіўленая тым, што старшыня суду сп.Ткачоў прыняў гэтую скаргу ад адміністрацыі Кастрычніцкага раёну да разгляду. Але зараз ён знаходзіцца ў шпіталі, а пакуль выкананьне рашэньня пра рэгістрацыю пярвічных арганізацыяў Свабоднага прафсаюзу ім прыпыненае.

Тым часам абласная арганізацыя СПБ заявіла, што ўлады наўмысна зацягваюць пытаньне рэгістрацыі, бо часу на выкананьне судовае пастановы яны мелі дастаткова. Прафсаюзныя актывісты кажуць, што цяпер можна чакаць любога павароту падзеяў, – нават да поўнай адмены рашэньня пра рэгістрацыю няўгодных уладам структураў.

***Алесь ДАЙНЕКА, кар. RR – адмыслова для "ТМ"***

### ПРАВЫ ЧАЛАВЕКА



## Партнэрства дзеля нармальнасьці

Учора ў Магілёве мясцовая грамадзкая арганізацыя *"Лекарскі саюз"* сабрала за кольным сталом сваіх калегаў па "трэцяму сэктару" і прадстаўнікоў замежных офісаў, якія дапамагаюць у рэалізацыі беларускіх грамадзкіх праектаў, а таксама – прадстаўнікоў дзяржаўнай улады. Старшыня *ЛС*, доктар Сяргей Кунцэвіч і сябры рады саюза дактары В.Аўраменка, А.Скабялка, С.Волкаў і Д.Сарокін прэзэнтавалі прысутным сваю арганізацыю, паведамілі пра ейныя пляны і пэрспэктывы. У дыскусіі за кольным сталом прынялі дзейны ўдзел Ігар Шары ("Кола сяброў"), Валянціна Гвазьдзёва ("Жаночы цэнтар"), начальнік гарадзкога ўпраўленьня інфармацыі Ю.Валабуеў, Тамара Вісловіч (цэнтар "Гармонія"), Вольга Алейнік (прадстаўніцтва ў Беларусі Міжнароднага валютнага фонду), Валянціна Канаш (прадстаўніцтва ў Беларусі амэрыканскай праграмы адукацыі і разьвіцьця "Counterpart").

Магчыма, што гэтая зацікаўленая і пакуль ня надта звыклая для нашага грамадзтва адкрытая гаворка аб існаваньні і праблемах недзяржаўнага грамадзкага сэктару сапраўды дасьць плён у руху краіны да нармальнасьці, прынятай ва ўсім сьвеце. Зь першага ж кроку пачынаецца любая, нават самая працяглая і цяжкая дарога...

***Уласная інф.***

## Спроба рэгістрацыі

У мінулую нядзелю адбыўся сход заснавальнікаў грамадзкага аб'яднаньня "За новую Беларусь", у якім ўдзельнічалі больш за 300 дэлегатаў з усёй краіны.

Быў зацьверджаны Статут аб'яднаньня і адзінагалосна абраны старшынём аргкамітэту былы міністар сельскай гаспадаркі Васіль Лявонаў. Ягонымі намесьнікамі сход абраў навукоўца і філёзафа Вячаслава Оргіша й мэнэджэра Івана Анташкевіча. У склад цэнтральнай рады ўвайшлі вядомыя грамадзкія і палітычныя дзеячы: Н.Гілевіч, А.Вярцінскі, Г.Бураўкін, С.Калякін, М.Марыніч, М.Гіруць ды інш. Быў агучаны заклік да прадстаўнікоў асноўных грамадзкіх сілаў краіны далучацца да аб'яднаньня. Дэлегаты выказалі думку, што дзейнасьць руху "За новую Беларусь" ёсьць моцным каталізатарам пераменаў да лепшага ладу жыцьця.

***Паводле прэс-службы руху "За новую Беларусь"***



**"Калгасы і саўгасы разганяць не зьбіраюся"**

**А.Лукашэнка заявіў пра недапушчальнасьць аграрнай рэформы ў краіне. Выступаючы перад сялянамі ў вёсцы Шчучына, ён падкрэсьліў, што толькі "кругнатаварная вытворчасьць" застанецца ў нас на бліжэйшыя гады ў падмурку аграпрамысловага комплексу.**

***Паводле інф. агенцыяў***

## У Шклове жартаў не разумеюць

***На трох актывістаў незарэгістраванага руху "Зубр" была заведзеная крымінальная справа паводле арт.368 ч.1: "публичное оскорбление президента Республики Беларусь".***

14 жніўня пяць хлопцаў, апрануўшы маскі з вусамі, наведалі шклоўскія крамы. Яны абяцалі пакупнікам заробкі ў $100, зьнізіць цэны, а таксама пасадзіць усіх жулікаў і прадпрымальнікаў. Усе ўдзельнікі былі затрыманыя й дастаўленыя ў гарадзкі аддзел ўнутраных справаў. Двое непаўнагадовых былі адпушчаныя ўначы, а на астатніх былі складзеныя пратаколы аб дробным хуліганстве. Назаўтра, замест таго каб адвезьці хлопцаў у адміністрацыйны суд, міліцыянты аб'явілі ім пра ўзбуджаньне крымінальнай справы.

***Аляксандар ШЧАРБАК***

9.09.2001 ВЫБІРАЙ

Рэдактар Генадзь СУДНІК

Тыднёвік Магілёўскі

Аналітычна-інфармацыйная газэта. Заснаваная Магілёўскім ГА «КОЛА СЯБРОЎ».

*Зарэгістраваная ў Дзяржкамітэце РБ па друку 06.11.1996 г. за № 831.*

*Штотыднёвік*

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 212030, г. Магілёў, вул. Першамайская, 6-22.



Тэл./факс: 31-04-15, 22-97-82.

E-mail: krug@user.unibel.by

Інтэрнэт: http://tydniovik.hypermart.net

Газэта надрукаваная афсэтным спосабам у абласной друкарні імя Я.Свярдлова, г. Магілёў, Першамайская 70. Замова 8. Наклад 2000 асобнікаў. Падпісана да друку 23.08.2001 г. а 17.10.